ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№1 (142) студзень 2023 год
CATHOLICNEWS.BY

# “Папа вас любіць і моліцца за вас”: восем гадоў супрацы Бэнэдыкта XVI і Беларусі






**Спачылы напярэдадні новага 2023 года Папа на пенсіі Бэнэдыкт XVI адыграў важную ролю і ў развіцці Каталіцкага Касцёла ў Беларусі. Яна вылучаецца перадусім дзвюма важнымі з’явамі. З аднаго боку, гэта кадравыя змены на чале беларускага Касцёла, а з другога – паглыбленне стасункаў паміж Ватыканам і ўладамі Беларусі. Пра гэта і не толькі – у нашым артыкуле.**

### Адстаўкі і прызначэнні

Ужо праз год пасля свайго абрання Папам, 14 чэрвеня 2006 года, Бэнэдыкт XVI прыняў адрачэнне ад кіраўніцтва Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі кардынала Казіміра Свёнтка, якому на той момант ішоў 92-і год і які пятнаццаць гадоў кіраваў сталічнай мітраполіяй. Замест кардынала часова кіраваць архідыяцэзіяй быў прызначаны біскуп Антоній Дзям’янка. А яшчэ праз год, 21 верасня 2007 года, Святы Айцец перавёў з Масквы ў Мінск арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, які будзе займаць кафедру ў беларускай сталіцы наступныя трынаццаць гадоў.

У 2012 годзе Папа Бэнэдыкт XVI прызначыў біскупам Пінскім ужо згаданага Антонія Дзям’янку. А 23 лютага 2013-га, усяго за некалькі дзён да сваёй уласнай адстаўкі, Пантыфік прыняў адстаўку біскупа Віцебскага Уладзіслава Бліна, месца якога праз некалькі месяцаў, ужо пры Папу Францішку, заняў біскуп Алег Буткевіч.

### Стасункі з уладамі

Час пантыфікату Бэнэдыкта XVI адзначыўся таксама ажыўленнем дыпламатычных стасункаў паміж Ватыканам і ўладамі Беларусі ды Беларускай Праваслаўнай Царквой. Паваротнымі можна лічыць 2008-2009 гады.

Гэтак 29 мая 2008 года, прымаючы даверчыя граматы новага амбасадара Беларусі ў Ватыкане Сяргея Алейніка, які з нядаўняга часу ўзначальвае Міністэрства замежных справаў, Пантыфік адзначыў важную ролю нашай краіны ў паяднанні Еўропы і экуменічным працэсе.

А ўжо 18-22 чэрвеня Беларусь наведаў Дзяржаўны сакратар Ватыкана кардынал Тарчызіа Бэртонэ. Падчас яго сустрэчаў з кіраўніцтвам краіны і Беларускай Праваслаўнай Царквы падымаліся важныя пытанні ўзаемадачыненняў, будаўніцтва новых святыняў, суіснавання хрысціянскіх канфесіяў. А таксама ўпершыню было заяўлена пра падрыхтоўку канкардату – пагаднення пра стасункі паміж Апостальскай Сталіцай і Рэспублікай Беларусь і пра становішча Каталіцкага Касцёла ў краіне. Выклікаў прыезд кардынала Бэртонэ і ажыўленне сярод беларускіх вернікаў. “Папа вас любіць і моліцца за вас”, – сказаў ён на сустрэчы з моладдзю.

А менш як праз год, 27 красавіка 2009 года, Бэнэдыкт XVI прымаў у Ватыкане Аляксандра Лукашэнку з малодшым сынам. У 2008 і 2009 гадах Пантыфіку прынамсі двойчы перадавалі запрашэнне наведаць Беларусь. Праўда, сам візіт так і не адбыўся.

Таксама ў 2009 і 2011 гадах Беларусь наведвалі старшыні Папскай рады спрыяння хрысціянскаму адзінству кардыналы Вальтэр Каспэр і Курт Кох, якія сярод іншага сустракаліся з Лукашэнкам, праваслаўным мітрапалітам Філарэтам ды бралі ўдзел у шэрагу іншых мерапрыемстваў.

Апроч таго, у часы пантыфікату Бэнэдыкта XVI нашу краіну наведвалі Папскі легат кардынал Ёзэф Томка, старшыня Папскай рады па СМІ арцыбіскуп Клаўдыё Марыя Чэллі, сакратар Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў арцыбіскуп Кірыл Васіль ды іншыя. Апошні, напрыклад, падкрэсліў неабходнасць развіцця структуры Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, але супраць гэтага выступіў праваслаўны мітрапаліт Філарэт.

### Касцельнае жыццё

Але не толькі адміністратыўнымі і міждзяржаўнымі стасункамі запомніўся для Беларусі пантыфікат Папы Бэнэдыкта XVI. Напрыклад, 1 сакавіка 2008 года адбыўся першы тэлемост “Мінск – Ватыкан”, падчас якога Святы Айцец звярнуўся да моладзі ў Мінску па-беларуску. Агулам Папа Бэнэдыкт XVI рэгулярна карыстаўся беларускай мовай, напрыклад, падчас прамоваў Urbi et Orbi на святы Божага Нараджэння і Вялікадня. Гучала беларуская мова на ўрачыстасцях з удзелам Папы Бэнэдыкта XVI і падчас яго візіту ў Польшчу ў 2006 годзе.

А ў 2012 годзе Пантыфік, прымаючы ад арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча выдадзеныя па-беларуску кнігу Евангельляў і першы том “Літургіі гадзін”, “выказаў сваё ўзрушэнне і пазітыўнае стаўленне да развіцця каталіцкай выдавецкай дзейнасці і беларускай тэалагічнай мовы”.

Свае ўзнагароды ад Папы за вялікі ўклад у развіццё Касцёла ў Беларусі атрымаў шэраг беларускіх вернікаў, у тым ліку пісьменніца, галоўны рэдактар часопісаў “Ave Maria” і “Наша вера” Хрысціна Лялько. А ў жніўні 2009 года арцыбіскуп Кёльнскі кардынал Ёахім Майснэр здзейсніў каранацыю папскімі каронамі цудатворнага абраза Маці Божай Валадаркі Азёраў у Браславе.

Менавіта пры Папу Бэнэдыкту XVI у 2011 годзе Касцёл у Беларусі адзначыў сваю прысутнасць у свеце ўсталяваннем мемарыяльнай шыльды з тэкстам малітвы “Ойча наш” на беларускай мове ў кляштары Pater Noster у Ерусаліме, якая сталася 163-й сярод шыльдаў на розных мовах свету.

І хоць унёсак Папы Бэнэдыкта XVI у развіццё Касцёла ў Беларусі патрабуе больш грунтоўнага вывучэння, ужо зараз зразумела, што ягоны ўплыў – прынамсі ў палітыцы і адміністраванні – быў вельмі істотным.

*Мечыслаў Гапановіч*

## Ці чыталі вы што-кольвек з літаратурнай спадчыны Папы Бэнэдыкта XVI?




- Чытаў яго артыкул ці інтэрв’ю з ім – 7 адказаў;
- Чытаў яго кнігу – 14 адказаў;
- Чытаў яго думкі ці разважанні – 8 адказаў;
- Нічога не чытаў і не планую – 2 адказы;
- Пакуль што не чытаў, але абавязкова нешта пачытаю – 5 адказаў.

Усяго – 36 апытаных

*Апытанне праводзілася на сайце Catholicnews.by, у сацсетках ВКонтакте, Facebook і Аднакласнікі*

# Кансерватыўны наватар. Якім быў Пантыфікат Бэнэдыкта XVI

**“Любімы Дзіцятка Езус, неўзабаве Ты прыйдзеш на Зямлю. Ты хочаш прынесці дзецям радасць. Таксама і мне прынясеш радасць. Я хацеў бы атрымаць Volks-Schott (папулярны ў той час лаціна-нямецкі Імшал – заўв. аўт.), зялёны арнат і Сэрца Езуса. Я заўсёды хачу быць добрым. Сардэчна віншую, Юзаф Ратцынгер”. Гэты ліст, напісаны напярэдадні Божага Нараджэння, захаваўся з часоў дзяцінства Папы Бэнэдыкта XVI як сямейная рэліквія. Будучы малым хлопцам, Пантыфік ужо тады не хацеў нічога болей, толькі быць як мага бліжэй да Хрыста і абвяшчаць Яго людзям. У дом Нябеснага Айца Папа на пенсіі быў пакліканы на 95-ым годзе жыцця, праз тыдзень пасля Раства, атрымаўшы тое, пра што прасіў.**



### Прапаведнік любові

Тое, што разважанне над хрысціянскай любоўю і абвяшчэнне яе глыбіні і ўніверсальнасці стане галоўным напрамкам пантыфікату Бэнэдыкта XVI, стала зразумела ў выніку выхаду яго двух энцыклік “Deus caritas est” (“Бог ёсць любоў”) і “Caritas in veritate” (“Любоў у праўдзе”).

У першай Папа адаптуе біблійнае паняцце любові да сучаснага свету. Ён акцэнтуе ўвагу на непадзельнасці любові пажадлівай (eros) і любові ахвярнай (agape). Бо без “эрасу” любоў выгарыць, не ў стане бясконца даваць, не атрымліваючы. А без “агапэ” яна скоціцца да эгаізму. Святы Айцец пазначыў таксама сучасныя пагрозы для любові – ігнараванне факту, што толькі дзякуючы ёй магчымыя здаровыя адносіны паміж чалавекам, сусветам і Богам. І разуменне любові як чагосьці спантаннага, а не рашэння на ўсё жыццё. Рэалізацыю любові да бліжняга праз Касцёл Пантыфік акрэсліў як ягоную дабрачыннасць, што не з’яўляецца пабочнай дзейнасцю, але належыць да істоты Касцёла.

У другой энцыкліцы адаптуецца сацыяльная навука Касцёла да выклікаў глабалізацыі. Паводле Папы, дасягненне прагрэсу магчымае толькі, калі кіруешся супольным дабром, а не прыбыткам. А эканоміка без этыкі прывядзе да таго, што людзі страцяць здольнасць імкнуцца да “вышэйшых дабротаў” і прымаць бескарыслівыя ініцыятывы.

### Заснавальнік эка-трэнду

Хоць адной з галоўных рысаў актуальнага Пантыфікату з’яўляецца клопат пра экалогію, ініцыятарам першых экалагічных зменаў у Ватыкане стаў менавіта Папа Бэнэдыкт XVI. З яго падачы ў Апостальскай сталіцы былі ўстаноўленыя сонечныя калектары, замененыя на энергазберагальныя электрычныя прыборы, а сам ён пачаў пісаць праэкалагічную энцыкліку. Дапрацоўваў паспяховую і папулярную “Laudato si`” ўжо Папа Францішак, але выданнем энцыклікі займаліся абодва іерархі: Папа і Папа на пенсіі.

### Дзеяч на карысць экуменізму і спакою

Першая ў гісторыі супольная дэкларацыя на тэму працягу каталіцка-праваслаўнага дыялогу была падпісаная Папам Бэнэдыктам XVI і Патрыярхам Канстанцінопальскім Барталамеем I у Турцыі ў 2006 годзе. Адным з асноўных акцэнтаў дэкларацыі стала згадка пра тое, што яшчэ выкарыстаныя далёка не ўсе магчымасці для дасягнення поўнага адзінства Касцёла. Акрамя экуменічнай сустрэчы з праваслаўным патрыярхам, Бэнэдыкт XVI узмацніў сваім візітам невялічкую мясцовую каталіцкую супольнасць, а таксама сустрэўся з ісламскім светам, узносячы малітву да Бога Айца ў Блакітнай Мячэці ў Стамбуле.

Працягам міжрэлігійнага дыялогу стаў Сінод Біскупаў для Блізкага Усходу, які Папа Бэнэдыкт XVI склікаў у 2011 годзе. У ім удзельнічалі як каталіцкія іерархі, так і дэлегаты з іншых хрысціянскіх канфесій і прадстаўнікі юдаізму і ісламу. Цэнтральная тэма, якая была закранутая падчас Сіноду, – пераслед вернікаў Хрыста ў гэтым рэгіёне і іх эміграцыя з зямель, каторыя з’яўляюцца калыскай хрысціянства. У Пантыфіка атрымалася пабудаваць масты з “высокімі” прадстаўнікамі мусульман, якія засведчылі, што ад’езд хрысціян з Блізкага Усходу збядняе арабскую адметнасць, яе культуру і аўтэнтычнасць, а захаванне іх прысутнасці ў рэгіёне з’яўляецца абавязкам паслядоўнікаў абедзвюх рэлігій.

У тым жа годзе з ініцыятывы Бэнэдыкта XVI у Асізі адбыўся Дзень разважання, дыялогу і малітвы за мір і справядлівасць. На запрашэнне Пантыфіка ўдзел у сустрэчы прынялі дэлегаты ад 31-ой хрысціянскай Царквы, 12-ці рэлігій і (упершыню ў падобным мерапрыемстве) агностыкі, адкрытыя на дыялог з вернікамі. Са свайго боку Папа перш за ўсё асцерагаў перад успрыманнем рэлігіі як крыніцы апраўдання гвалту і вайны. У выніку ўдзельнікі сустрэчы прынялі дванаццаць абавязацельстваў па спрыянні міру ў свеце.

### Парушальнік маўчання ў справе педафіліі ў Касцёле

Кардынал Юзаф Ратцынгер паклаў пачатак дзейнасці пад лозунгам “Нуль талерантнасці” сэксуальным злоўжыванням у Касцёле. А як Папа Бэнэдыкт XVI ён пайшоў далей, адмяняючы напісанае правіла “грахі Касцёла застаюцца ўнутры Касцёла”, якое прывяло да ўтойвання гэтых злоўжыванняў. Падчас яго Пантыфікату быў створаны механізм, што павінен выпрацоўваць інструкцыі для кожнай дыяцэзіі на выпадак, калі стане вядома пра сэксуальныя злачынствы. Сам Святы Айцец толькі ў 2011-2012 гадах адхіліў ад служэння каля чатырохсот святароў за жорсткае абыходжанне з дзецьмі і шматразова асабіста сустракаўся з ахвярамі гвалту. Ён скіраваў ліст да католікаў Ірландыі, дзе спрабы пра сэксуальныя дамаганні з боку духавенства былі асабліва гучныя, заклікаючы мясцовых біскупаў і святароў да гадавой пакуты за грэх педафіліі, заахвочваючы вернікаў да малітоўнай падтрымкі духавенства і паведамляючы пра наведванне гэтай краіны спецыяльнай ватыканскай камісіяй. Падчас сімпозіуму на тэму сэксуальных злоўжыванняў у Касцёле Папа акцэнтаваў увагу на пазітыўным супрацоўніцтве са СМІ і комплекснай барацьбе з педафіліяй. На радзіме Пантыфіка, у Германіі, таксама з яго ініцыятывы распачаў дзейнасць “Цэнтр аховы дзяцей”.

Нягледзячы на ўсе намаганні Бэнэдыкта XVI, ён часта падвяргаўся крытыцы за недастатковасць дзеянняў у барацьбе з педафіліяй. Апошняе з абвінавачванняў датычыцца перыяду яго служэння як Мюнхенскага арцыбіскупа і надання перавагі вырашаць крызісныя пытанні “ўнутрыкасцельным” шляхам. Аднак ніхто не зможа адмяніць тага, што менавіта Бэнэдыкту XVI хапіла інтэлігентнасці, каб зразумець свае памылкі і цалкам змяніць курс дзейнасці. Толькі яму хапіла адвагі, каб узяць на сябе адказнасць за ўсё зло, якое мае месца ў Касцёле, і працягваць раз за разам уздымаць балючыя пытанні, нягледзячы на хвалі асуджэння.

“Пераслед Касцёла паходзіць сёння не звонку, але ўзнікае ў выніку граху, якім з’яўляюцца сэксуальныя злоўжыванні духавенства адносна непаўналетніх, – падкрэсліў Бэнэдыкт XVI падчас прэс-канферэнцыі на борце самалёта, накіроўваючыся з пілігрымкай у Партугалію ў 2016 годзе, – у справах педафіліі прабачэнне не можа замяніць здзяйснення справядлівасці”.

### Не прагнуў улады

Бэнэдыкт XVI зноў вызначыўся вялікай адвагай, гэтым разам прызнаўшыся ў сваёй слабасці. Праз сем гадоў і дзесяць месяцаў пасля выбрання на пасаду Святога Пятра ён свядома адмовіўся ад працягвання служэння ў якасці Пантыфіка, растлумачыўшы сваё рашэнне сталым узростам (86 гадоў) і стратай сілаў. Аб’ява Бэнэдыкта выклікала шок не толькі ў касцельнай, але і ў свецкай сусветнай супольнасці. Ён стаў першым за апошнія 600 гадоў Папам, які выракся сваёй пасады. Яго пераемнік Папа Францішак адзначыў, што сваім рашэннем Бэнэдыкт XVI “адкрыў дзверы” такой магчымасці, засведчыўшы, што Папа Рымскі – гэта таксама чалавек, а не “звышчалавек”, надзелены дагматамі беспамылковасці.

Апошнія гады свайго жыцця Папа на пенсіі пажадаў правесці “схаваным ад усяго свету”, перамясціўшыся ў кляштар Mater Ecclesia у ватыканскіх садах. Перад смерцю ён проста, нібы той маленькі хлопец, які пішa ліст да Хрыста, прамовіў на італьянскай мове тры апошнія словы: “Пане, я люблю цябе!”

### Цікавінкі

✔ Бэнэдыкт XVI сказаў пра сваё абранне Папам: “Падчас канклаву я горача маліўся Богу, каб мяне не выбралі. Гэтым разам Ён мяне не паслухаў”.

✔ Ён быў Папам з самым сталым узростам на момант свайго абрання за апошнія 275 гадоў: яму было 78.

✔ Ён узяў імя Бэнэдыкт XVI у сувязі з пантыфікатам Бэнэдыкта XV, які імкнуўся да міру падчас Першай сусветнай вайны, а таксама ў сувязі з асобай св. Бэнэдыкта, каторы спрычыніўся да пабудовы хрысціянскай ідэнтычнасці Еўропы.

✔ Папа на пенсіі быў паліглотам. Акрамя роднай нямецкай, ён свабодна валодаў французскай, англійскай, іспанскай, лацінскай і італьянскай мовамі, а таксама свабодна чытаў на старажытнагрэцкай і іўрыце.

✔ Бэнэдыкт XVI належаў да ліку самых знакамітых сучасных тэолагаў. Яго называлі “Папам слова”.



*Ангеліна Марцішэўская*

# Якія словы перад смерцю прамовіў Бэнэдыкт XVI?

**“Signore ti amo!” – “Пане, я люблю Цябе!” Гэта былі апошнія словы Папы на пенсіі, які памёр 31 снежня 2022 года. Ён прамовіў іх на італьянскай мове, паведамляе vaticannews.va.**

Апошнія словы Бэнэдыкта XVI пачула сярод ночы медсястра. Гэта было каля трэцяй 31 снежня, за некалькі гадзін да смерці. Ратцынгер яшчэ не ўвайшоў у агонію, і ў яго супрацоўнікі і памочнікі змянялі адно аднаго. З ім у гэты момант была толькі медсястра, якая не гаварыла па-нямецку. “Бэнэдыкт XVI, – расказвае яго сакратар біскуп Георг Гэнсвайн, – шэптам, але лёгка адрозным, сказаў па-італьянску: “Пане, я люблю Цябе!” Гэта былі яго апошнія словы, зразумелыя, бо пасля гэтага ён ужо не мог выказацца”.

Каля 65 тысяч чалавек развіталіся з Бэнэдыктам XVI у першы дзень выстаўлення яго цела ў базыліцы Святога Пятра, – паведаміла ватыканская жандармерыя.

Колькасць людзей, якія прыйшлі аддаць пашану спачыламу Папу на пенсіі, больш чым у два разы перавысіла прагназаваную. З Бэнэдыктам XVI можна было развітацца ў ватыканскай базыліцы яшчэ на працягу двух дзён. Пахавальная Імша, якую ўзначаліў Папа Францішак, прайшла на плошчы Святога Пятра ў чацвер, 5 студзеня.



Труну з целам Бэнэдыкта XVI змясцілі ў магіле, падрыхтаванай у гроце ватыканскай базылікі. Папа спачыў у той жа магіле, дзе ў 1963-2000 гадах спачываў святы Ян XXIII, а ў 2005-2011 гадах – святы Ян Павел ІІ.

Кіпарысавую труну абвілі стужкай з пячаткамі Апостальскай палаты, Папскага дома і Службы папскіх літургічных цэлебрацый. Яе змясцілі ў іншай, цынкавай труне, якую запячаталі. А тую, у сваю чаргу, змясцілі ў драўлянай.

Цырымонія пахавання не транслявалася па тэлебачанні, паколькі насіла прыватны характар.

# Духоўны тэстамент Бэнэдыкта XVI: у мяне шмат прычын для падзякі

**“Стойце цвёрда ў сваёй веры! Не дайце сябе падмануць!” – гэта словы з духоўнага тэстаменту памерлага 31 снежня 2022 года Бэнэдыкта XVI. Ён склаў яго 29 жніўня 2006 года, на другі год свайго пантыфікату.**



У тэксце на нямецкай мове Бэнэдыкт XVI напісаў: “Азіраючыся ў гэту познюю гадзіну майго жыцця на пражытыя дзесяцігоддзі, я перш за ўсё бачу, як шмат у мяне прычын для падзякі. У першую чаргу я дзякую самому Богу, даўцу ўсякага дабра, Які падарыў мне жыццё і правёў праз розныя хвіліны замяшання. Ён заўсёды падтрымліваў мяне, калі я пачынаў спатыкацца, і заўсёды дарыў мне нанова святло Свайго аблічча. Азіраючыся назад, я бачу і разумею, што нават цёмныя і стомныя часткі гэтага шляху былі дзеля майго збаўлення, і што менавіта ў іх Ён шчасна накіроўваў мяне”.

Аўтар тэстаменту дзякуе сваім бацькам: “Яны далі мне жыццё ў цяжкі час і цаной вялікіх ахвяр, сваёй любоўю яны падрыхтавалі для мяне цудоўны дом, які, нібы яркае святло, асвятляе ўсе мае дні да гэтага часу”.

“Пранікнёная вера майго бацькі вучыла нас, дзяцей, верыць, і заўсёды кіравала ўсімі маімі навуковымі дасягненнямі. Глыбокая набожнасць і вялікая дабрыня маёй маці – гэта спадчына, за якую я ніколі не змагу аддзячыць ёй у належнай меры”, – прызнаўся Бэнэдыкт XVI.

Ён таксама ўспомніў сваіх сястру і брата: “Мая сястра бескарыслівa і з далікатным клопатам дапамагала мне на працягу дзесяцігоддзяў. Мой брат дзякуючы яснасці сваіх меркаванняў, цвёрдай рашучасці і сардэчнаму спакою заўсёды пракладваў мне шлях”.

Бэнэдыкт XVI выказаў удзячнасць сваім сябрам і супрацоўнікам на ўсіх этапах свайго жыцця.

“Дзякую жыхарам маёй Радзімы, бо ў іх я заўсёды мог зноў адчуць прыгажосць веры. Малюся, каб наша краіна заставалася краінай веры, і прашу вас, дарагія суайчыннікі: не аддаляйцеся ад веры”.

Затым ён дадаў: “Я прашу прабачэння ад усяго сэрца ва ўсіх, каго я чымсьці пакрыўдзіў”.

“Тое, што я раней казаў суайчыннікам, кажу цяпер усім даручаным майму служэнню ў Касцёле: стойце цвёрда ў сваёй веры! Не дайце сябе падмануць! (...) Езус Хрыстус сапраўды з’яўляецца дарогай, праўдай і жыццём, а Касцёл, з усімі яго недасканаласцямі, сапраўды з’яўляецца Яго целам”, – напісаў Пантыфік.

“Нарэшце, я пакорліва прашу: памаліцеся за мяне, каб Пан, нягледзячы на ўсе мае грахі і недахопы, прыняў мяне ў вечны дом. Аб усіх даручаных мне людзях з дня ў дзень узносіцца мае сардэчныя малітвы”, – так завяршаецца духоўны тэстамент Бэнэдыкта XVI.



# Папа памаліўся перад іконай Маці Божай Жыровіцкай

**Святы Айцец правёў некалькі хвілін у малітве за Украіну перад копіяй іконы Маці Божай Жыровіцкай, якая падчас агульнай аўдыенцыі 11 студзеня была выстаўленая ў ватыканскай Зале Паўла VI.**

“Не будзем забываць пра змучаную Украіну, якая заўсёды ў нашых сэрцах. Давайце выкажам гэтаму народу, які перажывае жорсткія пакуты, нашу любоў, нашу блізкасць і нашу малітву. А зараз я правяду некалькі хвілін у цішыні, молячыся за гэту дарагую краіну і за мір, перад іконай Багародзіцы Народа, якая ўшаноўваецца ў Беларусі. Запрашаю вас духоўна далучыцца да маёй малітвы”, – сказаў Папа.

Затым Папа Францішак падышоў да іконы Маці Божай Жыровіцкай, якую беларускія грэка-католікі ўшаноўваюць як Валадарку Беларускага Народа. Ікона дарагая таксама ўкраінскім вернікам. Яе копія-фрэска знаходзіцца ў рымскім касцёле святога Сяргея і Вакха, кафедральным саборы Апостальскага экзархата для ўкраінскіх грэка-католікаў у Італіі.

# Папа Францішак патэлефанаваў маладому ўдаўцу і бацьку двайнят

**Папа Францішак ва ўрачыстасць Божага Нараджэння размаўляў па тэлефоне з маладым італьянскім удаўцом і бацькам. Ён паспрабаваў суцешыць мужчыну, для якога святы сталі сапраўдным выпрабаваннем.**

Жонка Джакама Кафана памерла 22 снежня 2022 года пасля нараджэння двайнят у Брындызі, – паведаміла італьянскае каталіцкае выданне Avvenire. Святар, які духоўна суправаджаў сям’ю, напісаў ліст да Папы пасля смерці 41-гадовай Вівіаны Дэлега. У ім ён прасіў Святога Айца маліцца за сям’ю.

Надняхсвятарпаведаміўусацыяльных сетках пра тэлефонную размову Папы Францішка і Джакама Кафана. “Мне цяжка парушыць маўчанне, але я раблю гэта, каб паўтарыць глыбокую радасць, якую адчуў у гэты дзень Божага Нараджэння… Гэта былі словы суцяшэння і надзеі перад аблiччам пакут сям’і”, – падзяліўся ксёндз Даната Леуцы.

Акрамя двайнят, якія ўсё яшчэ знаходзяцца ў лякарні, у Вівіаны Дэлега засталася шасцігадовая дачка.

# Аргенціна: кубак чэмпіянату свету па футболе ў санктуарыі

**Старшыня Аргенцінскай футбольнай асацыяцыі (AFA) Клаўдыё “Чыкі” Тапія здзейсніў паломніцтва з кубкам чэмпіянату свету па футболе ў нацыянальны марыйны санктуарый у Лухане.**

Перад выявай Маці Божай ён падзякаваў за перамогу футбольнай зборнай краіны на чэмпіянаце свету, – гаворыцца ў паведамленні на сайце луханскага санктуарыя. Малітвай “Вітай, Марыя” рэктар базылікі ксёндз Лукас Гарсія падзякаваў за перамогу, “якая з’яўляецца вялікай радасцю для ўсяго аргенцінскага грамадства”.

Марыйны санктуарый у Лухане знаходзіцца за семдзясят кіламетраў ад Буэнас-Айрэса і з’яўляецца адной з самых важных святыняў Паўднёвай Амерыкі. Вірхен дэ Лухан (Багародзіца з Лухана) – апякунка Аргенціны, Уругвая і Парагвая.



Старонка 3 падрыхтаваная па матэрыялах беларускай рэдакцыі Vatican News

# Манахі і алкаголь, або Як у Беларусі ў каталіцкіх манастырах піва варылі


Эдуард Груцнэр. Тры манахі снедаюць. 1885 г.

**Часопіс "Беларускі гістарычны агляд" апублікаваў артыкул даследчыцы Раісы Зянюк пра традыцыі спажывання і вырабу алкаголю ў каталіцкіх манастырах і семінарыях на беларуска-літоўскіх землях два стагоддзі таму. Гісторык распавядае пра кляштарнае півавварэнне, густы манахаў і культуру піцця. Мы сабралі для вас галоўнае і самае цікавае.**

■ Арцём Ткачук

### Які алкаголь выраблялі

У асноўным манастыры выраблялі піва, мёд і гарэлку для ўнутранага спажывання і на продаж. У тыя часы піва ў каталіцкай традыцыі не адносілася да катэгорыі алкагольных напояў, бо працэнт алкаголю, які ў ім утрымліваўся, быў вельмі нізкі (2–3%). Гэта было піва верхняй ферментацыі, жывое і слабае.

Трэба разумець, што на момант далучэння да Расійскай імперыі на беларускіх землях дзейнічала больш за дзвесце рымска-каталіцкіх манастыроў. Практычна пры кожным з іх існаваў уласны бровар, а ў большасці выпадкаў – і не адзін. Часцей за ўсё ў іх працавалі сяляне ці нанятыя піваравары, а ўласна манахі займаліся гэтым радзей.

Аб'ёмы вытворчасці ўражваюць. Напрыклад, у манастыры цыстэрцыянцаў у Віслычах для піваварэння выкарыстоўваліся 8 кадушак і 20 піўных бочак, а ў 1829 г. **у базыльянскім манастыры ў Беразвеччы захоўвалася 160 вёдзер гарэлкі, 120 вёдзер пітнога мёду і 20 гарцаў французскага віна.**

### Навошта манахі ўжывалі алкаголь?

Піва, мёд, віно, гарэлку ды іншыя напоі ўжывалі не толькі ў мужчынскіх, але і ў жаночых манастырах. Піва, напрыклад, выкарыстоўвалася як напой ці як складовая частка пры гатаванні страў (у прыватнасці, піўных супоўполівак). Супы на піве тады ўваходзілі ў звычайны рацыён людзей. Гэты папулярны напой замяняў таксама не найлепшай якасці ваду.

Захаваліся нататкі пра тое, які алкаголь і якім чынам ужываўся ў сярэдзіне 19 ст. у манастыры трынітарыяў у Вільні. У справаздачы яго прыёр адзначаў: "Гарэлка даецца па кілішку перад абедам і вячэрай. Манахам, якія не п'юць гарэлку, раніцай [даецца] гарбата, а часта перад абедам – кілішак віна. У святы і на пахавальных абедах – дубальтовае піва, а часам пунш з добрым ромам". Відавочна, што між іншым алкаголь ужываўся для лепшага стрававання.

Піва пілі ў духоўных семінарыях як выкладчыкі, так і навучэнцы. У 1844 г. выканаўца абавязкаў рэктара Мінскай духоўнай семінарыі выслаў біскупу рапарт, у якім адзначыў, што "адзін з асноўных прадуктаў харчавання ў семінарыі – піва, якое, асабліва падчас посту, спажываецца ў даволі значных кольксцях, аднак пры цяперашніх на яго коштах яго набыццё значна абцяжарвае бюджэт семінарыі". З гэтай нагоды ён прасіў дазволу заснаваць уласны бровар пры семінарыі дзеля эканоміі сродкаў.

Раіса Зянюк прыводзіць прыклад, што ў статуце Магілёўскай семінарыі кожнаму клерыку павінна было выдавацца па бутэльцы піва на абед і на вячэру. Разам з гэтым усім "катэгарычна забараняліся гарэлка і іншыя спіртныя напоі, акрамя сапраўднай патрэбы".

### Ці існаваў алкагалізм?

Даследчыца канстатуе – так, з'ява была, але не больш чым сярод іншых сацыяльных груп.Назіраліся выпадкі алкагалізму ў асобных манахаў, пагаршэнне жыцця ў супольнасці таго ці іншага манастыра. Зрэдку здараліся выпадкі самагубстваў праз празмернае ўжыванне алкаголю.

У любым выпадку гэта сфера кантралявалася. Акаономы манастыроў дэтальна занатоўвалі аб'ёмы спажывання розных напояў, даты адкрыцця чарговых бочак. Семінарыстаў, у сваю чаргу, заклікалі пазбягаць прывычкі, "вельмі шкоднай для святара". "Калі б каторы быў заўважаны і папярэджаны два разы і не выправіўся, пра такога неабходна нам данесці", – пісалася ў адным з семінарыйных статутаў тых часоў.

### Як заняпалі традыцыі мясцовага манастырскага броварства

Пасля паўстанняў у 19 ст. пачаліся хвалі закрыцця манастыроў. Разам з гэтым у сярэдзіне 19 ст. унутры Касцёла распачалася антыалкагольная кампанія і нават паўставалі брацтвы цвярозасці. Таксама ў 1811 і 1861 гг. кляштарныя бровары абкладаліся акцызным зборам за піваварэнне. Манахі спрабавалі абыходзіць дадатковыя падаткі і ў выніку сутыкаліся з праблемамі. Дзяржаўная праверка выкрыла бернардзінцаў у Крэтынзе на незаконным вырабе піва. Вырашаючы праблему і звяртаючыся да губернатара, мясцовы біскуп пазней пісаў: "монахи, все почти преклонных уже лет, вдруг лишенные употребления пива, нашлись в довольно затруднительном положении".

Да канца 19 ст. на тэрыторыі Беларусі з амаль двухсот каталіцкіх манастыроў застаюцца тры. Разам са знішчэннем манаскіх ордэнаў і кляштараў была знішчаная і традыцыя кляштарнага піваварэння. Гэтая старонка нашай гісторыі назаўжды сышла ў нябыт.

*Напісана паводле:* ***Раіса Зянюк, "Традыцыі спажывання і вырабу алкаголю ў рымска-каталіцкіх манастырах і семінарыях на беларуска-літоўскіх землях (1772–1914)"*** // Беларускі гістарычны агляд. – Том 29. – Сшыткі 1-2. – Снежань 2022. – С. 57–74


Былы бровар братоў-баніфратраў у Гродне. Сёння ў будынку знаходзіцца пошта.

# Ученые реконструировали облик святого Антония Падуанского


**Группа международных исследователей реконструировала облик католического святого Антония Падуанского, сообщает Седмица. RU со ссылкой на LiveScience.**

Используя компьютерную томографию черепа святого францисканца, международная группа исследователей создала реалистичное изображение лица Антония Падуанского.

На финальном изображении предстает мужчина с редеющими каштановыми волосами в коричневой мантии, как и все монахи-францисканцы в Средние века.

Однако это уже не первая реконструкция лица знаменитого религиозного деятеля. В 1981 году итальянский скульптор Роберто Кремезини из гипса создал копию черепа святого Антония и затем попытался реконструировать его образ. Согласно новому исследованию, которое будет опубликовано в мартовском номере журнала "Цифровые приложения в археологии и культурном наследии", эта реконструкция стала результатом эксгумации мощей святого, санкционированной Папой Иоанном Павлом II.

Более 30 лет спустя, в 2014 году, исследователи из Музея антропологии Университета святого Антония Падуанского вместе с группой международных судебно-медицинских экспертов провели еще одну реконструкцию лица святого Антония, используя только цифровую копию эксгумированного черепа, сообщает издание "Католические новости".

"Сегодняшняя работа представляет собой обновление техники и демонстрирует четкую эволюцию реконструкции лица", – говорит Сисеро Мораес, ведущий автор исследования и бразильский эксперт по графике, который также работал над реконструкцией 2014 года.

В интервью для Live Science Сисеро Мораес отметил: "Настоящее приближение значительно улучшило анатомическую согласованность... и более совместимо с реальным лицом".

В дополнение к аппроксимации лица Мораес и его соавторы – итальянский археолог Лука Беззи и Никола Каррара из Университета святого Антония Падуанского – также сделали реконструкцию эндокраниума, основания черепа, который у Антония был чрезвычайно большим по сравнению со средним человеческим черепом. Другими словами, у святого Антония была очень большая голова. "Дело в том, что этот объем велик даже по сравнению с современными людьми", – сказал Мораес.

Святой Антоний умер в 1231 году в Падуе в возрасте 36 лет. Уже через год он был канонизирован Католической Церковью.

# “Важна мець асноўны касцельны дакумент на роднай мове”

*Вялікая гутарка з галоўным перакладчыкам “Кодэкса кананічнага права” на беларускую мову.*


Кс. Дзмітрый Пухальскі – канцлер Курыі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Спецыяліст па кананічным праве Каталіцкага Касцёла. Галоўны перакладчык “Кодэкса кананічнага права” на беларускую мову.

Уснежні 2022 г. у Мінску адбылася прэзентацыя перакладу галоўнага прававога дакумента Касцёла. Шматлікія госці ды розгалас у СМІ падрэслівалі адметнасць падзеі, а біскуп Буткевіч напісаў, што беларускія вернікі нарэшце могуць адчуваць сябе “паўнавартаснымі ўдзельнікамі паўсюднага Касцёла таксама і ў прававой галіне”. З каналістам і фактычна ініцыятарам перакладу Кодэкса гутарым пра аўдыторыю для гэтай працы, яе гісторыю ды асаблівасці. А таксама пра тое, як адстаўка мітрапаліта Кандрусевіча дала штуршок заканчэнню справы.

**– Чаму мы так доўга чакалі перакладу Кодэкса? З 1990 г. прайшло больш за трыццаць гадоў...**

– Трэба разумець, што трыццаць гадоў таму ў нас нічога не было. У плане перакладаў касцельных дакументаў на беларускую мову Касцёл паўставаў на пустым месцы. Таксама не было спецыялістаў. Таму ўсё, што зрабілася за гэты час, – зробленае з нуля.

Не хвалячыся, магу сказаць, што агулам праца па перакладзе Кодэкса заняла восем гадоў. Апошнія два гады мне дапамагаў кс. Андрэй Зноска.

**– Восем гадоў. Гэта шмат...**

– Я не скажу, што ўвесь час займаўся гэтым перакладам, было шмат іншых спраў. Аднак, будучы выкладчыкам у семінарыях у Пінску і Гродне, я вырашыў вучыць семінарыстаў па-беларуску. Таму перад лекцыямі апрацоўваў тлумачэнні. Такім чынам гэта ўсё рабілася.

**– Хто сёння з'яўляецца галоўнай аўдыторыяй гэтага перакладу?**

– Перадусім хацелася б, каб “Кодэксам кананічнага права” па-беларуску карысталіся святары, пробашчы. Таксама семінарысты, навучэнцы тэалагічных каледжаў. Наколькі ведаю, у гэтыя ўстановы ўжо дастаўлена неабходная колькасць выдання.

Разам з гэтым мяне вельмі цешыць факт, што ад моманту прэзентацыі некалькі вернікаў ужо пыталіся ў мяне, дзе набыць Кодэкс. Канешне, не варта патрабаваць ад кожнага католіка дакладных ведаў кананічнага права. Аднак некаторыя моманты карысна ведаць. Таму добра мець такую кнігу.

**– Ці правільна я разумею, што для адмыслоўцаў-кананістаў гэты пераклад мае невялікае значэнне. На лацінскай мове ім прасцей? Ці ўсё-такі і для іх гэты пераклад важны?**

– Добра, калі спецыялісты па кананічным праве ведаюць лаціну, аднак бывае па-рознаму. У любым выпадку ёсць такія тэрміны, якія нават у нашым перакладзе мы пакінулі на лацінскай мове. Напрыклад “res judicata”, “latae sententiae”, “ferendae sententiae” і іншыя. Кожны кананіст ды й шмат свецкіх вернікаў ведаюць, што гэта, але літаральна перакласці такі тэрмін на беларускую проста не ўдасца.

У любым выпадку, калі мы працуем з дакументамі, то варта звяртацца да арыгінальнага тэксту.

**– То бок кананісты ў курыях у любым выпадку будуць карыстацца лацінскім варыянтам?**

– Напэўна, будуць зазіраць. У нас было некалькі канкрэтных казусаў праз пераклады Кодэкса на розныя мовы. Таму даводзілася глядзець, што напісана ў арыгінале і што меў на ўвазе касцельны заканадаўца.

**– Ці ўнесла праца над гэтым перакладам нейкія змены ва ўжо прынятую ў Касцёле ў Беларусі тэрміналогію? Кшталту нейкі тэрмін тлумачыўся адным чынам, а працуючы над Кодэксам, зразумелі, што гэта было некарэктна?**

– Так, ёсць некалькі такіх тэрмінаў, да якіх мы ўжо прывыклі, але давядзецца прызвычайвацца да іншых. Гэта нармальна. Мова жыве і змяняецца.

Што датычыцца непасрэдна кананічнага права, то тэрміналогіі не было ніякай. Натуральна, шмат рэчаў было перакладзена, але гэта рабілася не для кананістаў, а для іншых патрэбаў. Напрыклад, пры перакладзе “Кампендыя Катэхізіса” ці нейкіх дакументаў. Ці вось мы ўжо прызвычаіліся гаварыць пра сапраўднасць Сакраманту – кшталту сапраўднае ці несапраўднае сужэнства, сапраўдная ці несапраўдная споведзь і г.д. Толькі ў лацінскім тэксце Кодэкса ёсць розныя варыянты гэтага слова – “verum” і “valide”. Польскі пераклад абодва словы тлумачыць як “важны”. Аднак “verum” і “valide” – гэта ўсё ж розныя словы. Сакрамант можа быць сапраўдны, але нядзейсны. Напрыклад, у пашпарце можа стаяць віза, у якой скончыўся тэрмін дзеяння. То бок віза сапраўдная, бо я не сам сабе яе клеіў, але яна нядзейсная і мяжу па ёй не пераедзеш. Гэтыя рэчы трэба адрозніваць. Таму трэба нам будзе прызвычаіцца цяпер да тэрмінаў “сапраўднасць” і “дзейснасць” Сакраманту.

Раней мы ў літургічным календары ўзгадвалі ўспаміны святых святароў. Цяпер мы іх называем “святыя прэзбітары”. Па сутнасці і тое, і тое правільна. Аднак святар можа быць і прэзбітарам, і біскупам. Таму “прэзбітар” будзе больш дакладна.

Таксама ў нас казалі пра годную і нягодную цэлебрацыю, а ў лацінскай для гэтага ёсць словы “legitime”, “illegitime” і “dignum”. То бок годны, ці “dignum” – гэта цэлебрацыя з арганам, са светам у касцёле, са спевам святара. “Legitime” – гэта пра дазволены ці недазволены чын. Таксама мы прызвычаіліся да тэрміну “распарадчык Сакраманту”, а ў Кодэксе ёсць “minister” і “distributor”. Таму ўсё ж такі правільна, што святар – гэта “служыцель Сакраманту”, а Касцёл – “распарадчык”. Некалькі такіх тэрмінаў трэба будзе ўводзіць у кананічную беларускую мову.

**– Нунцый Антэ Ёзіч быў вельмі зацікаўлены ў выданні Кодэкса пабеларуску. Чаму яму хацелася рухаць гэтую справу?**

– Калі прыйшоў дэкрэт аб звальненні арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча з пасады Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага, узнікла пытанне, як яго называць. Хтосьці яго называў “арцыбіскуп на пенсіі”, нехта – “ганаровы”, хтосьці яшчэ – “заслужаны”. Нунцый запытаўся: “Дык а як у Кодэксе напісана”? А я кажу, што Кодэкса ў нас няма. Ён запытаўся, хто займаецца гэтым, і я прызнаўся, што ў мяне ёсць перакладзеных 1600 канонаў, гэта 90%. Тады ён і прапанаваў сабраць камісію і зрабіць гэтую справу. Таму сыход арцыбіскупа ў нейкім сэнсе адыграў пазітыўную ролю, бо трэба было неяк яго назваць *(усміхаецца – аўт.)*.

Я мяркую, нунцый Антэ таксама добра разумее, што вельмі важна мець у краіне асноўны касцельны дакумент на роднай мове. Так, можна карыстацца польскім ці рускім, але добра, калі ёсць сваё. Напэўна, у яго былі магчымасці паспрыяць выданню. Таксама гэта штосьці, што застанецца добрым успамінам (вядома не адзіным) пра яго на доўгія гады. І мы яму за гэта ўдзячныя.

**– Вы ўжо прыгадвалі, што кс. Андрэй Зноска з Ліды шмат дапамог вам у фіналізацыі перакладу. Ён з'яўляецца адначасова адмыслоўцам у кананічным і ў дзяржаўным праве. Распавядзіце пра яго ролю ў гэтым праекце.**

– Падчас эпідэміі кавіду дзесьці паўгода мы з ім штовечар сазвоньваліся і слова па слове, канон па каноне абмяркоўвалі. Каб не кавід, не ведаю ці атрымалася б нам знаходзіць столькі часу.

З самага пачатку мы з ім вырашылі: калі ёсць адпаведная тэрміналогія ў свецкім праве, то пры перакладзе яе трэба выкарыстоўваць. Прававыя дакументы па-беларуску ў нас не вельмі распаўсюджаныя, аднак ёсць жа падручнікі, розныя працы. У гэтым плане кс. Андрэй таксама мне вельмі дапамог.

Вядома, было шмат спрэчак, аднак па ўсіх пытаннях мы дайшлі да кансэнсусу. Некаторыя словы мы вельмі доўга шукалі, не маглі знайсці добрага адпаведніка. Кс. Андрэй таксама знайшоў выдатнага кансультанта па беларускай мове – кандыдата філалагічных навук спадарыню Алену Садоўскую з Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Таму дапамогу кс. Андрэя цяжка пераацаніць.

**– З чым было найбольш клопатаў падчас перакладу?**

– Доўгія сказы – гэта асаблівасць лацінскай мовы. Там таксама ёсць розныя граматычныя формы, якія не так проста дакладна перакласці. Часам даводзілася рабіць гэта апісальна. Нярэдка мы былі вымушаныя дзяліць лацінскія сказы на два ці на тры. Таксама складана зрабіць, каб яшчэ фраза прыгожа і зразумела гучала. У кс. Андрэя гэта добра атрымлівалася.

На прэзентацыі Кодэкса ў Мінску быў а. Сяргей Цімашоў, перакладчык Кодэкса на рускую мову. Я забіраў яго з аэрапорта. Едзем на машыне, і першае, што ён запытаў, – гэта як мы пераклалі “bono temporale”. Літаральна гэта “даброты часовыя”, аднак у дзяржаўным праве ёсць таксама слова “маёмасць”. Таму “маёмасць Касцёла” – гэта больш зразумела, чым “даброты часовыя”. Агулам у іх былі такія ж праблемы, як і ў нас. Нават часта па тых жа самых словах былі пытанні.

**– Падзяліцеся, якімі беларускімі тэрмінамі, што ўвайшлі ў пераклад, Вы асабліва ганарыцеся? У сэнсе, іх адпаведнасцю і непаўторнасцю.**

– Ёсць такое лацінскае панятце пра святара – “vagus”. Яго можна перакласці як “бяздомны”, але гэта не зусім тое. Мы шмат дыскутавалі, глядзелі пераклады Кодэкса на іншыя мовы, нунцый нават харвацкі прывёз. І мы знайшлі беларускае слова “бадзяжны”. Спадарыня Алена сказала, што гэта вельмі ўдалы пераклад.

Яшчэ мне спадабалася слова “вэксэль”. Яно датычыцца фінансавых абавязальніцтваў. Шмат мы ўзялі з дзяржаўнага працэсуальнага права. Гэта тэрміны кшталту “данос”, “злачынства”, “пакаранне”, “допыт”, “міравое пагадненне”.

**– Ці былі ўжо водгукі на пераклад?**

– Ёсць адзін святар, які атрымаў Кодэкс на прэзентацыі ў Мінску, а праз тыдзень мы сустрэліся на святарскай сустрэчы. Ён падышоў і сказаў: “Ну са словам “бадзяжны” вы прыдумалі файна!” То бок ён дачытаўся да гэтага і, вядома, мне было вельмі прыемна. Пакуль гэта адзін такі выпадак.

**– Ці пераклад Кодэкса можа паўплываць на адносіны з дзяржаўнымі ўладамі? Магчыма, ім будзе прасцей зразумець, чаму ў Касцёле прымаюцца пэўныя рашэнні.**

– Дай Божа, каб так было. Ва ўсіх нашых дакументах, якія рэгулююць адносіны з дзяржавай, а гэта перадусім статуты парафій, дыяцэзій і іншых касцельных арганізацый, заўжды ёсць такі пункт, што гэтыя арганізацыі ў сваёй дзейнасці кіруюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і кананічным правам Касцёла. Мне казалі пэўныя прадстаўнікі ўладаў, што цяпер ім будзе прасцей прыняць нейкія рашэнні, бо яны будуць разумець, што пра гэта кажа Кодэкс. Аднойчы мне нават званіў адзін прадстаўнік і пытаўся: “Скажыце, а вось па гэтай справе, у якім каноне мы інфармацыю можам знайсці”? Я падказаў, і яны пазней былі вельмі ўдзячныя. Дзякуй Богу: чалавек захацеў, разабраўся. Дай Божа, каб так было і надалей.

**– Што для Вас асабіста азначае гэты пераклад?**

– Не хачу казаць, што гэта ў нейкім сэнсе маё дзіцё, якое нарадзілася, але я люблю права, я ім займаюся, я гэта вывучаю. Цяпер, напрыклад, я вывучаю статуты “Сінода Віленскай дыяцэзіі”. Гэта не толькі мая праца, але і хобі. Я гэтым жыў і жыву.

**– Ці будзе магчымасць набыць друкаваную версію Кодэкса па-беларуску?**

– Напэўна, будзе. У найбліжэйшыя тыдні ці месяцы пытанне вырашыцца.

**– Ці трапіць пераклад у свабодны доступ?**

– Я прасіў нунцыя пра гэта. Ён сказаў, што падумае. Мяркую, мы гэта зробім. Чаму не? Няхай людзі карыстаюцца.

**– У чым прыгажосць кананічнага права і чаму варта туды зазірнуць простаму чалавеку?**

– Усе кажуць пра прыгажосць права ў апошнім каноне: “Збаўленне душаў з'яўляецца найвышэйшым законам Касцёла”. На гэтым пабудавана ўсё права, і так яно і ёсць. Трэба разумець, што права існуе не для таго, каб кагосьці ў чымсьці абмежаваць, забараніць. Мэта Касцёла і права – збаўленне душаў, дапамога чалавеку ў збаўленні. Дзе супольнасць, там павінна быць і нейкае права. Без права адносіны паміж людзьмі немагчымыя.

*Арцём Ткачук*

Каталіцкі ВЕСНІК
№1 (142)
студзень 2023 г.

# Роль игры в психическом развитии ребенка

**Мы, взрослые, достаточно часто можем недооценивать значимость и важность детской игры. Порой нам кажется, что это праздное времяпрепровождение, которое не несет в себе пользы. Но все совсем не так. Также, как для взрослого человека важна его работа, ребёнку необходима игра. Через игру он знакомится с окружающим миром и с отношениями между людьми. Игра в психическом развитии ребенка имеет одну из главенствующих ролей, поскольку именно через игру мы можем видеть проекцию мышления, воображения ребенка, его склонности и интересы.**

■ Марина Ткач, *психолог*

### Как игра влияет на развитие ребенка

**Развитие образного мышления.** В процессе игры ребёнок наделяет предметы новыми свойствами, моделирует собственное воображаемое пространство. Развитие воображения и образного мышления – важнейший аспект влияния игры, ведь ребёнку приходится принимать нестандартные решения, чтобы реализовать сюжет своей игры. Правда, в последнее время это свойство игры истребляется производителями детских игрушек, создающих самые разнообразные игровые наборы на все случаи жизни. Максимально реалистичные детские наборы для игры лишают элемента фантазии.

**Рефлексивное мышление.** Хотя игра – это не жизнь, но поступки, которые, играя, совершает ребёнок, самые настоящие. В игре реализуется развитие навыков анализа и оценки своей деятельности. Такой опыт помогает ребенку сопоставлять свою деятельность с моральными принципами и нравственными нормами общественного поведения, контролировать соответствие своих поступков с общечеловеческими ценностями. В процессе игры он учится быть справедливым, честным, решительным, добрым. Игра формирует характер ребёнка.

**Развитие речи и навыков.** В процессе сюжетно-ролевой игры ребёнку постоянно приходится проговаривать свои действия, разыгрывать диалоги между героями. Игры в компании других детей способствуют не только развитию речи, но и развитию коммуникативных навыков: детям нужно распределить роли, договорится о правилах игры, поддерживать контакт непосредственно в процессе игры. Ребёнок учится не только договариваться, но и соблюдать принятые правила.

**Мотивационная деятельность.** В ходе игры происходит развитие мотивов деятельности, формируются цели и стремления.

**Физическое развитие.** Подвижные игры формируют опорно-двигательную систему, укрепляют весь организм. Дети радостно бегают, прыгают – и это полезно. У них развивается ловкость и отличный мышечный тонус.

**Развитие эмоциональной сферы.** В игре ребенок учится сопереживать, поддерживать, симпатизировать.

**Что же происходит в психике ребенка, когда он погружен в игру?** Прежде всего он дает волю воображению, создавая игровую реальность. Зачем нужно воображение? Оно дает возможность расширить границы знакомого и привычного, перемешав известные вещи и вымысел. Небольшой объем знаний о мире компенсируется постоянной, на максимальных “оборотах”, работой воображения. Каждый ребенок овладевает умением трансформировать знакомые образы и создавать что-то свое. Это важное умение помогает ему решать новые задачи, он учиться предвосхищать результаты своих действий именно благодаря воображению. Кроме того воображение – основа абстрактного мышления, совершенно необходимого при освоении многих предметов. Также, когда ребенок захвачен игрой, он может дать волю эмоциям: в игре отсутствуют “социальные фильтры”, вынуждающие его скрывать некоторые чувства. А значит игра становится безопасным каналом для выражения переживаний, которые родителя или другие взрослые могут считать неуместными.



Прежде всего это касается агрессии. Но, конечно, игра не только позволяет отыгрывать “плохие” чувства. В ней ребенок может выразить и свои эмоциональные потребности, например, в заботе, любви, внимании. В игре может происходить все, что угодно, все допустимо, а значит, пусть и в фантазийном поле, но можно компенсировать дефицит чего-либо. В этом заключается “исцеляющая” функция игры, потому что для психики нет разницы: произошло ли нечто во внутреннем пространстве или в реальности. В любом случае происходит разрядка напряжения.

Отмечу, что игра сохраняет свое важное значение в психическом развитии ребенка и в школьном возрасте. Некоторые родители считают, что школа – это тот период, в котором практически нет места игре. Фразу “лучше бы книжку почитал вместо того, чтобы играть”, думаю, многие из вас произносили не один раз. Да, началась серьезная школьная жизнь, но не стоит забывать, что детство-то продолжается. Большинство детей с удовольствием играют до 11-12 лет.

Когда ребенок идет в школу, его потребность играть такая же сильная, какой была и в дошкольном возрасте. И не смотря на то, что учеба и школьная жизнь для него теперь на первом месте, в свободное время он будет предпочитать игру любым другим занятиям. Более того, у игр в этот возрастной период появляется дополнительная функция – они помогают ребенку отвлечься и расслабиться, отдохнуть от школьных нагрузок. Игра продолжает сохранять и свою социализирующую роль, ведь в пространстве игры многие дети все еще чувствуют себя увереннее, чем в условиях учебы с ее правилами. Поэтому в режиме дня обязательно должно быть отведено время игре.

Известный психолог Рубинштейн в свое время говорил, что “игра – это школа жизни и практика развития детей”. Помните об этом, когда захотите сделать замечание своим детям по поводу их игр.

# У маладой сям'і нарадзіўся малыш.

## *Ці так павінна быць па-беларуску?*

**Тэму гэтага моўнага артыкула падказала нам чытачка “Каталіцкага Весніка” спадарыня Алена з Полацка.**

■ Юрась Бабіч , *кандыдат філалагічных навук*

Сярод шэрагу чыста лінгвістычных пытанняў, якія яна адрасавала аўтару нашай моўнай рубрыкі, было, у прыватнасці, і такое: *“Ці мэтазгодна выкарыстоўваць у беларускай мове слова **малыш**? Мая дачка працуе ў садочку, і я пастаянна чую ад яе выказванні накшталт яна выхоўвае дваіх **малышоў**; **малыш** патрабуе шмат увагі; разам са старэйшымі дзецьмі гуляюць і **малышы** і іншыя падобныя. Мы імкнёмся з ёй гаварыць па-беларуску, прычым стараемся рабіць гэта правільна. Таму часам нават спрачаемся, як у гэтым выпадку, са словам **малыш**. Мне такі назоўнік, прызнаюся шчыра, неяк рэжа слых. Вось і ўзнікла пытанне: ці так павінна быць па-беларуску? І яшчэ: як найлепш перадаць па-беларуску назву папулярнай здаўна тэлеперадачы “Спокойной ночи, малыши”?”*

Сапраўды, спадарыня Алена закранула і цікавую, і адначасова актуальную праблему. Бо згаданы назоўнік досыць часта фіксуецца і ў вусным маўленні, і ў пісьмовых тэкстах, нават заўважаем яго на старонках нашых газет. Асаблівую прыхільнасць да слова **малыш** мае “Веснік Глыбоччыны”, дзе гэтая лексема адзначаецца намі з зайздроснай рэгулярнасцю. Напрыклад: *Якраз 13 лістапада нарадзіліся адразу чатыры **малышы**... Ёсць і трыа **малышоў**, народжаных у адзін дзень...* (13.01.18); *Святочныя **малышы*** (03.02.18); *21 **малыша** зарэгістравалі ў аддзеле ЗАГС райвыканкама... Дзве сям'і па сваім жаданні зарэгістравалі **малышоў** ва ўрачыстай абстаноўцы* (11.08.18).

Назоўнік **малыш** як нібыта беларускае слова сталі падаваць слоўнікі ў 30-ыя гады XX стагоддзя. Тады ўжо пачаўся працэс русіфікацыі беларускай лексікі, калі шмат неўласцівых нашай мове слоў імкнуліся ёй навязаць. Тут варта згадаць, што “Падручны расейска-беларускі слоўнік” Вацлава Ластоўскага (1924 г.), у якім змешчаная асноўная ўжывальная на той час беларуская лексіка, не фіксуе названай вышэй лексемы, а прапануе натуральныя беларускія назоўнікі **малы**, **малюк**, **малец**, **малюся** (с. 315). Яно і зразумела, бо ўтварэнні з суфіксам *–ыш* не адпавядаюць беларускай словаўтваральнай мадэлі. Параўнаем: *поскрёбыш – паскробак, зародыш – зародак, заморыш – заморак* і г.д. Нават “Тлумачальны слоўнік беларускай мовы” (ТСБМ), выдадзены ў 1979 годзе, фіксуе назоўнік *малыш* з паметай “размоўнае”. І гэта цалкам лагічна. Прыгадаем таксама, што нярэдка пакуль яшчэ можам і пачуць, і прачытаць форму жаночага роду – *малышка*. Напрыклад: *А вось **малышка** з'явілася на свет ужо пад знакам Вадалея, 26 студзеня* (“Веснік Глыбоччыны”, 03.02.18). Людзі старэйшага пакалення могуць прыгадаць, як гадоў трыццаць-сорак назад гэта была вельмі папулярная ў нашых вёсках мянушка для кароў) Зразумела, што ўжываць згаданы назоўнік для абазначэння маленькай дзяўчынкі не зусім дарэчна.

Асноўным варыянтам для называння малога дзіцяці з'яўляецца ў нашай мове непасрэдна субстантываваны назоўнік **малы** (у жаночым родзе – **малая**, у множным ліку – **малыя**). Мы адзначаем гэта і ў мастацкіх тэкстах, і ў штодзённай сучаснай практыцы: *Марта з двума **малымі** жыла на выгане ў старой хатцы* (Змітрок Бядуля); *Кастусь выязджаў ужо з двара, калі выбег з агарода Юзік і з плачам кінуўся наўздагон. Давялося ўзяць **малога** на воз* (Сцяпан Александровіч).

Як зборны назоўнік можа выкарыстоўвацца слова **малеча**: ***Малеча** і старыя з дня ў дзень снавалі па лесе з лазовымі каробкамі і кошыкамі* (Іван Мележ); *Ушколе дзевяцікласнікі не вельмі сябравалі з сямікласнікамі. Лічылі сямікласнікаў **малечай*** (Лідзія Арабей).

Як бачым, наша мова можа цудоўна абыходзіцца без ненатуральных для яе назоўнікаў і формаў *малыш, малышка, малышы*. Таму правільна па-беларуску будзе, напрыклад, *У маладой сям'і нарадзіўся **малы**; Яна выхоўвае дваіх **малых**; **Малая** патрабуе шмат увагі; Разам са старэйшымі дзецьмі гуляюць і **малыя**.*

Што ж датычыць назвы папулярнай яшчэ з савецкіх часоў тэлеперадачы для дзяцей, то па-беларуску найлепш яна гучыць як “***Дабранач, хлопчыкі і дзяўчынкі***”. Тут адчуваецца канкрэтны, поўны пяшчоты і любові зварот да хлопчыкаў і дзяўчынак, адлюстроўваецца пажаданне добрага, спакойнага, бесклапотнага сну. Як і павінна быць у беларусаў.

Мы шчыра дзякуем нашай чытачцы спадарыні Алене за ўзнятае пытанне! Спадзяёмся, наш матэрыял дапаможа прыхільнікам сакавітага беларускага слова і надалей падтрымліваць яго высокі ўзровень.

# Як ставіцца да Пячаткі Бога Жывога?

***– Пахвалёны Езус Хрыстус! Не так даўно мне ў рукі трапіла выява і малітва – "Пячатка Бога Жывога". Падкажыце, калі ласка, што гэта такое і як да гэтага ставіцца?***

*Ганна*

– Паважаная Ганна! Сучасны свет перапоўнены інфармацыяй, у якой дастаткова лёгка заблытацца. Чалавек па сваёй прыродзе заўсёды імкнецца да новых ведаў. Ён чытае, цікавіцца, даследуе новую інфармацыю. Аднак зацікаўленасць і інфармацыя не заўсёды могуць прыносіць добры плён. Калі інфармацыя трапляе ў рукі разумнага чалавека, яна здольная развіваць мысленне, абараняць, аднак пры няправільным яе выкарыстанні гэта самая інфармацыя можа прынесці вялікую шкоду.

Гісторыя ведае шмат прыкладаў, калі чалавек, маючы вялікую пыху, ішоў насуперак вучэнню Касцёла, трактуючы Біблію па-свойму або выдумляючы нейкія містычныя візіі. Таксама вядома, што гісторыя мае здольнасць паўтарацца. І ў выпадку "Пячаткі Бога Жывога" яна якраз у пэўным сэнсе і паўтарылася.

"Пячатка Бога Жывога" выйшла з ерэтычных пасланняў ірландскай "візіянеркі" Мэры Карбэры, якая сама сабе надала тытул "Марыя Божай Міласэрнасці". Гэтыя "пасланні" пачалі з'яўляцца ў інтэрнэце з 2010 года. Трэба заўважыць, што ў свой час спадарыня Мэры ўзначальвала PR-агенцтва, паслугамі якога карысталіся шматлікія СМІ і бізнесмены. Калі бізнеспоспехі спадарыні Карбэры пагоршыліся, яна пачала выдаваць так званыя "візіі". Сцвярджала, у прыватнасці, што мае пастаянную сувязь са "Святой Тройцай" і "Багародзіцай", якія пакідаюць ёй рэгулярныя пасланні для чалавецтва. У гэтых "візіях" яна перадае мноства ерасяў, якія, дарэчы, супярэчаць адна адной. А кульмінацыяй усіх пасланняў з'яўляюцца словы пра тысячагадовы рай на зямлі, пра хуткі суд і канчатковы зямны рай. Гарантыяй абароны і збаўлення, згодна са словамі Мэры Карбэры, павінен быць не крыж Езуса, а сертыфікат з "Пячаткай Жывога Бога" і з так званым "Медальёнам збаўлення". Да гэтага яшчэ дадаецца адмысловы шкаплер (не трэба блытаць са шкаплерам Маці Божай з гары Кармэль).

Гэтыя "пасланні" вельмі небяспечныя, бо яны накіраваныя на тое, каб аддаляць людзей ад Касцёла і ад Бога. Згодна з "пасланнямі", толькі нашэнне медальёна дае права на збаўленне: ні вера ў Хрыста, ні наследаванне Яго, ні ўдзел у сакрамантах Касцёла, а толькі медальён. Гэта фактычнае адмаўленне ролі Хрыстовага Адкуплення.

З цягам часу да распаўсюджвання "візій" Марыі далучыўся ірландскі мільянер Брэфні Кулі, які пачаў актыўна прадаваць вышэйзгаданыя амулеты (медальён, шкаплер і сертыфікат з пячаткай). Цікавы факт: у адным са сваіх "пасланняў" спадарыня Карбэры перадае словы так званай "Маці Збаўлення" (у вобразе якой прадстаўляецца Маці Божая): каб гэты медальён быў "даступны для аптовага продажу". Каб ніхто не мог пераняць вытворчасць, на медальёне ёсць таварны знак. Шматлікая літаратура і інфармацыйныя рэсурсы "Пасланняў Марыі Божай Міласэрнасці" перакладзены на многія мовы свету. Уводзячы людзей у падман, спадарыня Карбэры і яе паслядоўнікі вельмі добра рэалізуюць дзве мэты: украсці трыумф д'ябла ў свеце і паспяхова зарабіць грошы.

"Дзякуючы" паслядоўнікам Мэры Карбэры ерэтычныя "візіі" і "пасланні" разышліся па ўсім свеце. Католікі, калі прымаюць гэтае вучэнне, распаўсюджваюць непрызнаныя Касцёлам пасланні, адмаўляючыся ад праўды, якую дае Каталіцкае вучэнне. Яны, на жаль, ідуць згубным шляхам, а таксама ўводзяць у падман іншых. Людзі вераць у збаўленне праз нейкі медальён, шкаплер і пячатку, а не праз Адкупленне Хрыста, якое здзейснілася на крыжы.

Святое Пісанне вучыць нас, наколькі небяспечным з'яўляецца яго свавольнае тлумачэнне: "Толькі памятайце перш за ўсё, што ніякае прароцтва ў Пісанні не належыць да прыватнага тлумачэння" (2 П 1, 20). А спадарыня Карбэры менавіта гэтым і занялася – маніпуляваннем Святога Пісання, будуючы сваё вучэнне на асобных цытатах з Бібліі, вырываючы іх з кантэксту.




Спадарыня Карбэры пераконвае чытачоў і сваіх паслядоўнікаў, што тэксты, якія яна публікуе, – гэта Кніга Праўды. Пераймаць выразы з Бібліі і з іх дапамогай пераконваць людзей у тым, што апакаліптычныя часы, апісаныя ў Бібліі, адбываюцца на нашых вачах, палохаць людзей набліжэннем канца свету і Страшнага суда – гэта не тое, што робіць чалавек, які мае праўдзівае пасланне ад Бога.

Спадарыня Мэры Карбэры таксама прысвоіла сабе выраз з Бібліі: "Пячатка Бога Жывога". Гэты выраз мы знаходзім у Кнізе Апакаліпсісу святога Яна. Гаворка ідзе пра нематэрыяльную пячатку, якую Бог паставіць выбраным людзям (праз анёлаў) на іхніх чолах, а не нейкую пячатку з сургучу ці воску, зробленую са слоў самой уяўнай "візіянеркі".

Ніякае "пасланне" альбо "візія" Мэры Карбэры не зацверджана Касцёлам. Але яна не толькі не прымае гэтага, але і абвінавачвае і крытыкуе Паўсюдны Касцёл і Святога Айца. Хтосьці сказаў, што д'ябал можа імітаваць знешнасць любой цноты, акрамя адной – пакоры.

20 лютага 2019 года Святы Айцец Францішак заахвоціў вернікаў браць прыклад са святога айца Піа, які заўсёды заставаўся верным Касцёлу, любіў яго з усімі яго праблемамі і недасканаласцямі. Папа сказаў: "Ён [айцец Піа] любіў Касцёл, з усімі праблемамі, якія Касцёл мае, з усімі недасканаласцямі, з усімі грэшнікамі. Бо Касцёл святы, ён Нявеста Хрыста, але мы, дзеці Касцёла, усе грэшнікі, а некаторыя і вялікія! – але ён любіў Касцёл такім, які ён быў, не нішчыў яго сваім языком, як гэта цяпер прынята рабіць... Нельга жыць усё жыццё, абвінавачваючы, абвінавачваючы, абвінавачваючы Касцёл. Чый гэта абавязак? Каго Біблія называе вялікім абвінаваўцам? Д'ябла! А тыя, хто ўсё жыццё абвінавачвае, абвінавачвае, абвінавачвае, – не скажу, дзеці, бо ў д'ябла іх няма, – а сябры, стрыечныя браты, сваякі д'ябла".

Таму, паважаная Ганна, каб дасягнуць збаўлення, мы, католікі, маем шмат сродкаў (Касцёл, сакраманты, Святое Пісанне, сакраманталіі, зацверджаныя Касцёлам), і яны дапамагаюць нам ісці правільным шляхам. Нам патрэбныя не сертыфікаты з пячаткамі – "знешнія знакі", а асабістае навяртанне. І няхай кожны з нас яго дасягне!

*З малітвай,*
***кс. Аляксей Ляшко***




# Урачыстасць вечных манаскіх абяцанняў прайшла ў супольнасці сэрцанаў у Гродне



**27 снежня парафія Божай Міласэрнасці ў Гродне святкавала ўрачысты момант прыняцця вечных манаскіх абяцанняў паслухмянасці, убоства і чыстасці кл. Аляксандрам Пятліцкім SCJ. У гісторыі беларускага дыстрыкту айцоў-сэрцанаў вечная кансэкрацыя ўпершыню адбылася на беларускай зямлі.**

**■ Ксёндз Уладзіслаў Чуйко SCJ**, *тэкст;*
**Баляслаў Гавэцкі**, *фота*

Кл. Аляксандр Пятліцкі нарадзіўся ў 1991 годзе ў Баранавічах (Пінская дыяцэзія). Сваё жыццё, прысвечанае службе Богу, распачаў першымі манаскімі абяцаннямі ў 2018 г. у Стапніцы (Польшча), дзе знаходзіцца навіцыят польскай правінцыі. У гэтым жа месяцы кс. Станіслаў Груца SCJ з 30 лістапада па 7 снежня праз рэкалекцыі ў тэматыцы Божай любові да чалавека рыхтаваў кандыдатаў ужо да вечнай кансэкрацыі. Галоўнай думкай духоўных разважанняў сталі словы Евангелля паводле св. Яна: "Бо так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае" (Ян 3, 16), якія яскрава адлюстроўваюць сэнс духоўнай харызмы сэрцанскай супольнасці.

Працяг пачатковай фармацыі кл. Аляксандра будзе адбывацца ў Вышэйшай місійнай семінарыі ў Стадніках (Польшча), дзе, паглыбляючы тэалагічныя веды, ён будзе рыхтавацца да наступнага кроку на шляху да святарства – пасвячэння ў ступень дыякана.

Свае вечныя манаскія абяцанні кл. Аляксандр склаў перад кс. Янам Этэлем SCJ, які на гэты час быў прадстаўніком кс. Славаміра Кнопіка SCI – правінцыяла польскай правінцыі святароў Найсвяцейшага Сэрца Езуса. Каб падтрымаць духоўна і раздзяліць з кл. Аляксандрам яго радасць, прыбылі найбліжэйшыя чальцы ягонай сям'і, а таксама браты з законнай сям'і.





# “У сэрцах ёсць Любоў”. Чарговы фестываль рэлігійнай песні прайшоў у Мёрах

**“Зорка Бэтлеема” – фестываль, які ў далёкім 2002 годзе першы раз адчыніў дзверы таленавітай моладзі. Гэтая моладзь прыязджала ў Мёры падзяліцца сваімі талентамі, каб праз спевы і вершы, праз танец і ігру на музычных інструментах праславіць Нованароджанага Збаўцу.**

**Вікторыя Філіпенка**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч,** *фота*

Вось і 4 студзеня маладыя выканаўцы з розных куточкаў Беларусі прыбылі ў Мёры, дзе чарговы раз праходзіла “Зорка Бэтлеема”.

Напачатку гасцей і ўдзельнікаў фестывалю прывітаў ардынарый Віцебскай дыяцэзіі біскуп Алег Буткевіч. Ён заўважыў, што нараджэнне Езуса Хрыста не можа пакінуць абыякавым ніводнага хрысціяніна. Яно напаўняе кожнае сэрца радасцю і жаданнем праслравіць Збаўцу. Праслравіць найперш спевам, быццам войска анёлаў, што спявалі “Gloria”.



У першай частцы конкурсу выступілі выканаўцы з парафіі Святой Тройцы (Глыбокае), Злата Ярашэвіч з парафіі святога Апостала Юды Тадэвуша (Лучай), моладзь і дзеці з парафіі святога Міхала Арханёла (Варапаева), а таксама гурт “Транзітус” з парафіі святога Францішка з Мінска.

Пасля невялікага перапынку канцэртную праграму працягнулі прадстаўнікі парафіі святога Андрэя Баболі (Полацк), маленькія скрыпачкі з парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса (Наваполацк), гурт “Антоніа” з парафіі святога Антонія Падуанскага (Віцебск) і гаспадары фестывалю – моладзь і дзеці з парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі (Мёры).

Трэба сказаць, што агульная атмасфера была вельмі цёплай, напоўненай усмешкамі, добрымі словамі і хрысціянскай радасцю. Канешне, прысутнічала хваляванне, але кожны ўдзельнік прыйшоў да мэты – праслравіць Хрыста.

Гледзячы праграму, сэрца напаўняе гонар, бо ў нашым Каталіцкім Касцёле ў Беларусі такая таленавітая моладзь! І гэтыя таленты вельмі разнастайныя і прадстаўленыя ў самых цікавых формах: прыгожымі спевамі на беларускай, польскай і нават нямецкай мовах. І спевы гэтыя ў самых розных стылях – ад класічных калядак да аўтарскіх і нават рэпу; ігрой на музычных інструментах: скрыпках і цымбалах, фартэпіяна і гітарах, тамтамах і бразготках. Не абышлося без арыгінальных харэаграфічных пастановак.

“Хваліце Яго бубнам і танцам, хваліце Яго на струнах і флейце. Усё, што дыхае, няхай хваліць Пана” – міжволі прыйшлі на думку словы 150-га псальма.




Надышоў час падвядзення вынікаў. У склад журы ўваходзілі ксёндз Сяргей Сурыновіч, сястра Ёнаша Мровец, спадарыня Тэрэза Будкевіч. Удзельнікаў ацэньвалі ў дзвюх узроставых катэгорыях: дзеці (да 12 гадоў) і моладзь (13 – 17 гадоў).

У намінацыі “Інструментальная творчасць” месцы размеркаваліся ў наступным парадку: 1. Кацярына Мазынская (скрыпка, Наваполацк), Вераніка Дашкевіч (фартэпіяна, Полацк), Аляксандр Шамёнак (гітара, Мёры); 2. Марыя Мяцеліца (Наваполацк), Вераніка Дашкевіч і Дар’я Воднева (Полацк).

У намінацыі “Дуэты”: 1. Вераніка Дашкевіч і Дар'я Воднева (Полацк), Мацвей Шаршунс і Вераніка Вавінская (Глыбокае); 2. Ульяна Казаровец і Пётр Дзевяткоўскі (Варапаева).

У намінацыі “Гурты”: 1. Дзіцячы гурт з Глыбокага, а таксама моладзевы гурт з Віцебска; 2. Дзіцячы ансамбль гурта “Транзітус”; 3. Гурты “Зорачкі” і “Званочкі” (Мёры), моладзь гурта “Транзітус” (Мінск).

У намінацыі “Сола”: 1. Таіса Андрэйчык (Наваполацк), Злата Ярашэвіч (Лучай); 2. Пётр Дзевяткоўскі (Варапаева), Кірыл Дзехцяронак (Мёры), Станіслаў Мікуць (Мінск); 3. Кацярына Мазынская (Наваполацк), Ульяна Казаровец (Варапаева), Таццяна Сіняўская (Глыбокае) і Ксенія Казачонак (Глыбокае).

Усе артысты атрымалі дыпломы, салодкія падарункі і добрыя кнігі. Напрыканцы гучалі словы падзякі выканаўцам, арганізатарам, а таксама кіраўнікам, настаўнікам, што рыхтавалі дзяцей і моладзь да ўдзелу ў конкурсе.

# “Настаўнік – гэта пакліканне”: Чацвёртая малітоўная сустрэча ў межах Вялікай навэнны адбылася ў Будславе

**7 студзеня, у першую суботу месяца і новага, 2023 года, у Нацыянальным санктуарыі Маці Божай Будслаўскай адбылася Чацвёртая малітоўная сустрэча ў межах Вялікай навэнны падрыхтоўкі да 25-гадовага юбілею з часу каранацыі цудадзейнага абраза Маці Божай Будслаўскай. Навэнна была распачатая ў першую суботу кастрычніка 2022 года.**

**Марына Сінкевіч,** *тэкст;* **Леанід Юрык,** *фота*

Студзеньская малітоўная сустрэча сабрала каля Маці Божай Будслаўскай настаўнікаў і катэхетаў з усёй Беларусі, але перадусім з Віцебскай дыяцэзіі. Гэтае спатканне ўзначаліў Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.



Напачатку ўсіх пілігрымаў, якія толькі ўваходзілі ў святыню, шчыра вітаў ксёндз-канонік Дзмітрый Барыла з Ракава.

Сустрэча пачалася з Фацімскага Ружанца, які правялі настаўнікі і катэхеты з розных парафій Беларусі пад кіраўніцтвам сястры Марыі Шамовіч BDNP – дырэктара катэхетычнага аддзела Курыі Віцебскай дыяцэзіі, а святары ў гэты час неслі паслугу сакраманту споведзі ў канфесіяналах.

Цэлебрацыю ўрачыстай святой Імшы перад цудадзейным абразом Маці Божай Буслаўскай узначаліў біскуп Буткевіч. Звяртаючыся да вернікаў, іерарх падкрэсліў, што ўрач, святар і настаўнік – гэта прафесіі з Божага прызначэння, гэта пакліканне. Ведаем, што справа выхавання і адукацыі – праблематычная ў грамадстве. Часам настаўнік і катэхет павінны кампенсаваць праблемы выхавання ў сям’і. А калі задумацца, адкуль гэтыя праблемы, то яны вынікаюць з беспарадку ў духоўнай сферы. “Пошук Бога – гэта пачатак, без якога нельга казаць пра добрыя вынікі ў выхаванні. Таму катэхеты і настаўнікі павінны быць тымі зоркамі на шляху маленькага чалавека, якія дапамогуць у пошуках праўды пра Бога”, – падкрэсліў біскуп Алег.

Затым адбылася адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту, разважанні да якой падрыхтавала Алена Татун – катэхетка з в. Канстанцінава, што на Глыбоччыне.



Пасля сцюдзёнага касцёла і марознага надвор’я, якое выдалася ў гэты дзень, сустрэча працягнулася ў памяшканні Дома культуры, дзе былі падрыхтаваныя гарачая гарбата і пачастунак. Там жа ўдзельнікі сустрэчы падзяліліся аплаткай і праслухалі тэматычную канферэнцыю “”Ты настаўнік Ізраэля і гэтага не ведаеш?” (Ян 3, 10). Нікадэмаў шлях ад аксіяматычнага настаўніцтва да евангелізацыйнага вучнёўства”, падрыхтаваную ксяндзом Валерыем Марціноўскім, доктарам біблійнай тэалогіі, пробашчам Віцебскага катэдральнага касцёла Езуса Міласэрнага.

Падчас канферэнцыі святар звярнуў увагу на праблему, што калі дзеці ходзяць на катэхезу, то не ўсе з іх ходзяць на святую Імшу. Настаўнікі павінны самі глядзець на свой шлях, на сваю падрыхтоўку да заняткаў, рабіць працу над сваімі памылкамі, каб удасканальвацца і быць прыкладам для будучага пакалення. І параіў педагогам “карыстацца” чатырма дзеясловамі, якія даў Хрыстос для Нікадэма як навуку: *ведаю, прамаўляю*, бо *ўбачыў* і таму *сведчу* з адвагай.

Малітоўная сустрэча завяршылася супольнай малітвай Вяночка да Божай Міласэрнасці і благаслаўленнем.

# Калядны турнір па міні-футболе сярод парафій прайшоў у Гродне

**28 снежня ў Гродне адбыўся калядны турнір па міні-футболе сярод каталіцкіх парафій горада і іншых месцаў Беларусі.**

Мерапрыемства, арганізатарам якога быў кс. Артур Малафей, адказны за душпастырства спорту і фізічнага выхавання ў Гродзенскай дыяцэзіі, распачалося святой Імшой у капліцы парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля.

Літургію цэлебраваў а. Віктар Бохан CSsR. У гаміліі ён нагадаў пра свята немаўлят, мучанікаў, якое адзначае ў гэты дзень Касцёл, і заўважыў, што яно схіляе да разважання над чалавечымі планамі і амбіцыямі. “За імі лёгка забыцца пра годнасць і вартасць чалавека. Можна стацца падобнымі да Ірада і ісці да мэты нават па “трупах” або захоўваць у жыцці спартыўны прынцып “Fair Play”, які дазваляе нам нават пры найбольш эмацыйных спаборніцтвах шанаваць свайго бліжняга”, – сказаў святар.

Варта зазначыць прысутнасць на Імшы і на працягу турніру ганаровага госця – прафесійнага футбаліста з клуба “Алімпія Эльблёнг” (Другая ліга Польшчы) Яна Сянкевіча, які паходзіць з Гродна. Ён вызначаў па выніках турніру лепшых гульцоў у камандах і ўзнагароджваў іх.

Пасля Эўхарысты ўдзельнікі ў духу вялікай радасці падзяліліся аплаткамі, пачаставаліся гарбатай і слодычамі.

У спаборніцтвах удзельнічалі каманды васьмі парафій. Падчас спаборніцтваў на пляцоўцы панавала вельмі цёплая і радасная атмасфера. Смачнае частаванне дадало сілы удзельнікам.

Матчы праходзілі ў бескапраміснай спартыўнай барацьбе. Усе ўдзельнікі атрымалі падарункі ад арганізатараў.

1-е месца на турніры заняла зборная каманда Баранавічаў (парафіі Маці Божай Фацімскай, св. Яна Паўла II, Божай Міласэрнасці і Маці Божай Вастрабрамскай, Узвышэння Святога Крыжа).

**Вынікі:**
1. Баранавічы (зборная каманда некалькіх парафій);
2. Парафія Найсвяцейшай Тройцы ў Германішках;
3. Парафія Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне (Дзевятоўка);
4. Парафія святых Апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша ў Воранаве;
5. Парафія Найсвяцейшай Тройцы ў Глыбокім;
6. Парафія Божай Міласэрнасці ў Гродне (Вішнявец);
7. Парафія св. айца Піа ў Гродне;
8. Парафія Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне (Паўднёвы).

Узнагароды “Fair Play”, “Прыз глядацкіх сімпатый” і спецыяльны кубак атрымала каманда гродзенскай парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.

Таксама была прадстаўленая намінацыя “Найлепшы гулец” у кожнай камандзе. Усе найлепшыя гульцы атрымалі падарункі ад арганізатараў.

*Тэрэса Раманчук,*
*grodnensis.by*
*Фота:* ***Даніэль Ліс***



# Жывая стаенка ў Удзеле

25 і 26 снежня ў в. Удзела Глыбоцкага раёна назіралася шмат дзяцей і дарослых. Прычына была, безумоўна, святочная і важная. У гэтыя дні айцы-францішкане, якія служаць у мясцовым касцёле Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, асабліва запрашалі наведаць Удзела, каб пакланіцца Нованароджанаму Езусу, паглядзець сцэнку, якую падрыхтавалі маленькія вернікі, і ўбачыць жывую стаенку з рознымі жывёламі. Там былі і гусі, і авечкі, і козы, і трусы. Асаблівай славутасцю стаўся вослік Філіп, які карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод дзяцей, бо яны мелі магчымасць нават праехацца на ім.

Калядныя спевы, фігуры св. Юзафа, Маці Божай і маленькага Езуса ў яслях у хляве сярод жывёл давалі магчымасць мясцовым вернікам і гасцям парафіі адчуць сябе ў той момант быццам у Бэтлееме.




*Фотаздымкі*
*з архіва парафіі*

## На люты прыпадаюць дні нараджэння і імяніны ў наступных святароў:

**10** лютага – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксей Асон** *(Новы Пагост);*

**17** лютага – імяніны адзначае **кс. Аляксей Асон** *(Новы Пагост);*

**18** лютага – дзень нараджэння адзначае **кс. Вадзім Прасяной SCJ** *(Паставы);*

**25** лютага – дзень нараджэння і імяніны адзначае **кс. Віктар Сініцкі SCJ** *(Шаркаўшчына);*

**26** лютага – імяніны адзначае **біскуп Віцебскі Алег Буткевіч;**

**27** лютага – дзень нараджэння адзначае **а. Аляксандар Шаўцоў** *(Полацк);*

**28** лютага – імяніны адзначае **кс. Раман Мурзіч.**



*Падрыхтаваў*
***кс. кан. Віктар Місевіч***

# Лічбы ў Бібліі

**Паважаныя чытачы! Мы зноў запрашаем вас праверыць свае веды і адказаць на некалькі пытанняў. У гэты раз усе адказы будуць “лічбавымі”, а тэмы пытанняў звязаныя з Бібліяй.**

**1** **Колькі разоў Езус гаворыць прабачаць, адказваючы на словы Пятра: “Пане, калі мой брат зграшыць супраць мяне, колькі разоў я павінен прабачыць яму”? (Мц 18,21)**




А. 7;
Б. 72;
В. 77.

**2** **Колькі зорак было над галавой у жанчыны, апранутай у сонца, якая апісваецца ў Апакаліпсісе апостала Яна?**



А. 24;
Б. 12;
В. 5.

**3** **Колькі вучняў Езус паслаў прапаведаваць у Евангеллі ад Лукі 10,1?**



А. 12;
Б. 70;
В. 72.

**4** **Колькі пакаранняў паслаў Бог на Егіпет?**



А. 7;
Б. 10;
В. 12.

**5** **Колькі срэбранікаў атрымалі браты Юзафа ад мадыямскіх купцоў за яго продаж?**



А. 20;
Б. 30;
В. 40.

**6** **Якая лічба прапушчана: “А ўсіх пакаленняў ад Абрагама да Давіда - ..., ад Давіда да бабілёнскага перасялення - ..., ад бабілёнскага перасялення да Хрыста - ...” (Мц 1,17)?**



А. 7;
Б. 12;
В. 14.

**7** **Колькі дзён Бог ствараў сусвет?**



А. 7;
Б. 6;
В. 5.

**8** **Колькі жывёлаў стаяла каля трону Бога ў Апакаліпсісе апостала Яна?**



А. 1;
Б. 4;
В. 5.

**9** **Колькі тронаў стаяла каля трону Бога ў Апакаліпсісе апостала Яна?**



А. 24;
Б. 12;
В. 20.

**10** **Колькі гадоў Бог вадзіў народ Ізраэля па пустыні ў дні Майсея?**



А. 80;
Б. 40;
В. 30.

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16**

*Падрыхтавала*
***Лаліта Арлоўская***

# Святы Ігнацый Антыёхскі



**Хрысціянская вера, нібы птушка ў паветры, абапіраецца на два крылы: Святое Пісанне і Касцельную Традыцыю. Першае, напісанае цэлым шэрагам натхнёных Духам Святым людзей, з'яўляецца Божым словам, якім мы штодня жывём. Другое "крыло" – Традыцыя з вялікай літары "Т" – гэта апостальскае вучэнне, якое не было змешчана ў Бібліі, але, маючы сваю крыніцу ў навучанні дванаццаці Апосталаў, перадавалася вусна, а ўжо пасля было запісана і пададзена для веравання. Сведкамі Апостальскай Традыцыі, якая непадзельна звязана з напісаным Божым словам, ёсць аўтары, якіх мы агульна называем Айцамі Касцёла.**

■ Ксёндз Павел Эйсмант

### Касцёл у Антыёхіі

Першым Айцом Касцёла, з якім мы пазнаёмімся, будзе св. Ігнацый Антыёхскі. Касцёл у Антыёхіі з'яўляецца найстарэйшай хрысціянскай супольнасцю ў свеце пасля Ерузалема. Калі ў Ерузалеме распачаўся пераслед вызнаўцаў вучэння Хрыста, яны перасяліліся ў найбліжэйшую вялікую метраполію старажытнага свету – Антыёхію. Менавіта там іх упершыню ў гісторыі чалавецтва назвалі хрысціянамі. Святы Пётр, першы Папа рымскі, быў там некаторы час біскупам. Там праводзілі сваю дзейнасць святыя апосталы-місіянеры Павел і Барнаба. Адтуль яны вырушылі ў падарожжа на землі сённяшняй Турцыі, у Малую Азію, для заснавання хрысціянскіх супольнасцяў. Вядома, гэта ў іх добра атрымалася.

У канцы І ст. біскупам горада Антыёхія быў Ігнацый, святы Касцёла, літургічны ўспамін якога прыпадае на 17 кастрычніка. У той час у Рымскай імперыі, да каторага належала Антыёхія, пачаўся моцны пераслед веры. Хрысціянская кроў лілася рэкамі. Кіраўнік мясцовага Касцёла біскуп Ігнацый быў схоплены і прысуджаны бязлітасным суддзёй да смяротнага пакарання. Месцам выканання прысуду павінна была стаць размешчаная "на другім канцы свету" рымская арэна. Публічная смерць хрысціянскага кіраўніка, гэтае крываваe шоу з дзікімі звярамі і бедный ахвярай у галоўнай ролі, мела за мэту, па першае, задаволіць язычнікаў, прызывычаеных да "хлеба і відовішчаў", а па-другое, запалохаць усіх астатніх, каб або засталіся язычнікамі, або адракліся ад хрысціянства.

### Падарожжа арыштаванага біскупа ў Рым

Рымскае войска правяло біскупа Ігнацыя праз усю Малую Азію, каб затым морам перавезці яго ў Рым, дзе ён павінен быў прыняць мучаніцкую смерць. Гэтае падарожжа глыбока запомнілася самому Ігнацыю. Як ён пісаў у Пасланні да Рымлянаў: "...Я прыкаваны да дзесяці леапардаў, гэта значыць да аддзелу салдат, якія бываюць тым горшыя, чым больш я для іх бываю добры". Але гэта было вельмі моцнае перажыванне таксама для хрысціянскіх супольнасцяў, гэта значыць, для ўсіх тых, хто сустрэўся з біскупам старажытнага Антыёхскага Касцёла, каторы мужна і адважна, без боязі і страху ішоў на мучаніцкую смерць.

Падчас свайго падарожжа біскуп Ігнацый сустрэўся з прадстаўнікамі касцельных супольнасцяў, якія прыбылі да яго з розных куткоў Малой Азіі, каб яго суцешыць і ўмацаваць, а таксама падтрымаць у падарожжы. Захаваліся Пасланні, што ён пісаў да гэтых касцельных супольнасцяў. У іх біскуп заахвочвае вернікаў захоўваць Евангелле Хрыста, прабываць у супокоі, быць цярплівымі, чакаць прыйсця Божага Валадарства. У той жа час Ігнацый імкнецца, каб вернікі заставаліся ў адзінстве са сваім біскупам, з вернікамі з іншых супольнасцяў і адзін з адным. Прычым выкарыстоўвае для гэтага музыку. Біскуп піша, што праз еднасць і любоў, спалучаную са згодай, вернікі быццам ствараюць жывую сімфонію: "Таму ў еднасці вашай і ў згоднай любові гучыць песня Езуса Хрыста. Вы ўсе ўтворыце хор, каб, будучы згоднымі і аднадумнымі, напяваючы ў еднасці Божыя ноты, у адзін голас праз Езуса Хрыста спявалі Айцу..." Вернікі маюць абавязак трываць у Езусе, наследаваць Яго і ўсё больш яднацца з Ім. Ігнацый таксама перасцерагае ад ерасяў, памылковых вучэнняў, якія, падшываючыся пад вучэнне Хрыста, быццам атрута, пранікалі ў мясцовыя супольнасці. У асноўным Ігнацый рашуча змагаўся супраць ерасі дакетызму, калі абвяшчалася, што Езус Хрыстус не стаўся сапраўдным Чалавекам, але толькі стварыў уражанне, што Ён мае чалавечае цела. Што ўсе мукі і смерць Хрыста былі толькі прывідам, а не рэальнай падзеяй.

Найбольш каштоўным, аднак, у яго Пасланнях з'яўляецца сведчанне яго асабістага прыкладу веры. Біскуп Ігнацый напісаў Пасланне да супольнасці ў Рыме, куды ён павінен быў прыехаць непасрэдна перад мучаніцкай смерцю на арэне. Цікава, што сваё Пасланне ён кіруе "...Касцёлу, які трымае першае месца,... які годны Бога, годны паважання, годны хвалы, годны праслаўлення, годны поспеху, годны святасці, які займае першае месца ў лучнасці любові..." Некаторыя вучоныя мяркуюць, што выраз "які займае першае месца ў лучнасці любові" – гэта прызнанне прымату рымскага Касцёла. Калі гэта сапраўды так, то мы маем яшчэ адно пацвярджэнне старажытнасці гэтага дагматычнага вучэння Касцёла.

### Я – Божая пшаніца

У гэтым Пасланні, якое ў цэласці захавалася да нашых дзён, Ігнацый, ведаючы, што хрысціяне, верагодна, маючы нейкія сувязі пры імператарскім двары, могуць дамагацца яго вызвалення, просіць іх не рабіць гэтага. Ён хоча памерці мучаніцкай смерцю. Біскуп налягае: "Я малю вас, не аказвайце мне дабрыні, якая не мае сэнсу. Дазвольце мне стаць здабычай дзікіх звяроў, бо праз іх я дайду да Бога. Я – Божая пшаніца, а зубы дзікіх звяроў мяне сціраюць на муку, каб я стаў чыстым хлебам Хрыста".

Пішучы рымлянам, ён таксама нам адкрывае тое, што адбываецца ў яго сэрцы і розуме. Дзякуючы гэтаму мы маем уяўленне пра жыццёвую пазіцыю хрысціяніна, які так прывязаўся да Евангелля, што зямное жыццё перастала яму падабацца, таму ён выракаецца яго. Біскуп Ігнацый піша: "Мне не патрэбная асалода гэтага свету і зямных валадарстваў. Для мяне лепш памерці, каб далучыцца да Хрыста, чым валадарыць да краю зямлі. Я шукаю Таго, Хто памёр за нас, жадаю Таго, Хто ўваскрос дзеля нас". Калі Ігнацый гаворыць пра сваю смерць, пра свой адыход з гэтага свету, ён кажа: "Набліжаюцца мае народзіны". Цяжка, аднак, неспрактыкаванаму чалавеку адрозніць у іншым святасць ад псіхічнай неадэкватнасці...

Пра Хрыста, да Якога Ігнацый хоча далучыцца, у "Пасланні да эфесцаў" ён выказваецца наступным чынам: "Хрыстус – гэта сапраўдны Бог і сапраўдны Чалавек, "народжаны і ненароджаны, Бог, пакрыты целам, у смерці праўдзівае жыццё, і з Марыі, і з Бога, найперш падданы цярпенням, а потым Той, Які іх не адчувае. Езус Хрыстус – наш Пан..."

### Ідзі да Айца...

Хрысціянскае жыццё праходзіць пасярод гэтага свету, але на самай справе гэта чаканне паўнаты жыцця, якое заключаецца ў еднасці з Богам. Таму біскуп антыёхскі просіць хрысціянскую супольнасць: "Не перашкаджайце мне жыць, не жадайце маёй смерці. Таго, хто хоча належаць Богу, не аддавайце свету і не падманвайце матэрыяй. Дай мне атрымаць чыстае святло. Калі я туды дабяруся, я буду чалавекам". Гэта глыбокае перакананне біскупа Ігнацыя, што чалавечнасць – не зямное жыццё. Быць чалавекам азначае глядзець на Бога, сузіраць Таго, Хто нас стварыў. Таму чалавечае жыццё і быццё чалавекам пачынаецца менавіта ў той момант, калі мы яднаемся з Богам.

Біскуп Ігнацый, аднак, у гэтым лісце таксама сведчыць, што такое стаўленне не зусім трывалае і непахіснае. Як лёгка чалавеку скарыцца, зламацца пад знешнім ціскам! Ён вельмі выразна піша аб гэтым у "Пасланні да рымлянаў": "Князь гэтага свету хоча выкрасці мяне і знішчыць маё стаўленне да Бога. Няхай ніхто з вас тут не дапамагае яму ў гэтым. Лепш будзьце са мной, гэта значыць, з Богам. Не пажадайце свету, кажучы пра Езуса Хрыста". І дадае: "І нават калі б я, будучы ўжо з вамі, пачаў прасіць вас вызваліць мяне, не слухайце мяне, але лепш выконвайце тое, што я вам сёння пішу". Ігнацый ведае, што яму давядзецца змагацца, што яго прывязанасці да Бога ўсё роўна давядзецца сутыкнуцца з прывязанасцю да зямных рэчаў. Аднак ён глыбока перакананы, што больш моцным і праўдзівым у ім з'яўляецца прагненне Бога, чым любоў да гэтага свету. А потым у Пасланні ён піша прыгожыя словы: "Распятыя мае зямныя жаданні. Агню любові да матэрыяльных рэчаў ужо няма ўва мне, а ёсць толькі Жывая Вада, якая праамаўляе ўва мне, якая кліча мяне знутры: ідзі да Айца". Гэта сведчанне новага жыцця, якое з'яўляецца ў хрысціяніну. Зямное жыццё добра пазнаецца ўсякай прывязанасцю да гэтага свету, вечнае жыццё, якое пачынаецца дзякуючы веры ў Езуса Хрыста, падобнае да ціхай вады, што прамаўляла да біскупа: "Ідзі да Айца".

Таму не дзіўна, што сустрэча са святым біскупам Ігнацыем, які ішоў на рымскую арэну, каб аддаць сваё жыццё, так глыбока ўрэзалася ў памяць Касцёла. Мы дагэтуль памятаем яго вялікую і святую мучаніцкую смерць.

# У Віцебску маліліся аб жыцці вечным для Бэнэдыкта XVI

**2 студзеня ў Віцебскай катэдры маліліся за спачылага Папу на пенсіі Бэнэдыкта XVI.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст*
**Анатоль Бандарчук-Вошлаў**, *фота*

Ёзаф Ратцынгер, які сваім навучаннем учыніў важны крок у разуменні таямніцы Хрыстовага Касцёла, у разуменні тэалогіі, быў выдатным тэолагам мінулага стагоддзя. Для свайго біскупскага герба ён абраў дэвіз "Cooperatores veritatis" ("Супрацоўнікі праўды"). Праз усё жыццё бараніў праўду, тое, што ў сучасным свеце вельмі патрэбна для чалавека, бо яе адсутнасць вядзе да розных складаных і трагічных сітуацый у жыцці.

Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх біскупаў Беларусі біскуп Алег Буткевіч разам з віцебскімі вернікамі ўзносіў малітву Богу аб узнагародзе за ахвяру пасвячэння жыцця Папы Бэнэдыкта XVI і каб тая спадчына, якую ён пакінуў як духоўная асоба, як тэолаг, дапамагала сучаснаму свету знаходзіць дарогу да Бога, сваё жыццё будаваць згодна з навукай Езуса Хрыста, згодна з Евангеллем.

У гамíліі біскуп Алег прыгадаў гісторыю жыцця – ад самага нараджэння Ёзафа Ратцынгера аж да смерці Папы на пенсіі Бэнэдыкта XVI.



# Возвращение к нормальной жизни. Свидетельство бывшего алкоголика

**Владимир – человек, который потерял почти всё из-за алкогольной зависимости. Но он нашёл выход и изменил свою жизнь к лучшему. Сегодня он решил поделиться своим опытом выздоровления.**

Впервые я попробовал алкоголь на застолье в кругу семьи, мне тогда было лет пять. Мужчина, знакомый семьи, тогда мне налил рюмку водки и сказал: "Ты мужик – пей". Я задал маме вопрос об этом, но она меня не заметила. Мама разговаривала с соседкой и кивала ей головой, как обычно происходит, когда человек заинтересованно слушает. Мне тогда показалось, что она разрешила. Когда я выпил, за столом наступила полная тишина, все были в шоке и смотрели на меня. Но это была только первая рюмка, неосознанная, конечно. После неё мне не захотелось употреблять.

Момент, с которого, как я считаю, начались мои проблемы с алкоголем наступил, когда я был в четвёртом классе. Это было на встрече одноклассников моих сестёр, они старше меня на шесть лет. Я видел в этом возможность стать взрослым, как их друзья. Мне показалось, что я добился цели. Я был очень горд за себя тогда. "Теперь я взрослый", – думал я о себе. Но по-настоящему много пить я стал уже после окончания школы и поступления в ВУЗ. Мог позволить себе всё, меня уже никто не контролировал. Тогда я отрицал, что алкоголь для меня проблема. Конечно, я же мог и не пить. Но зачем мне не пить, если пьют все?

Самыми страшными для меня были два последних года употребления. Тогда я заметил у себя навязчивую мысль о суициде. При этом я не хотел умереть смертью стереотипного алкоголика – где-нибудь на обочине или в канаве. Да, я не хотел жить, но и умирать я тоже не хотел.

Я стал считать себя хроническим неудачником, приносящим зло близким людям. Конечно, больнее всего я делал своему самому любимому человеку – жене. Не осознавая этого, я провоцировал скандалы, только чтобы иметь возможность употреблять со спокойной совестью. Я говорил себе: она на меня кричит, значит, я имею право, хлопнув дверью, идти пить.

Один раз после очередной пьянки жена не выдержала и не пустила меня домой. Тогда в одно мгновение я потерял дом, семью. Мне было ужасно неудобно кому-то сказать, что я теперь бездомный, поэтому пару ночей пришлось провести на вокзале. Я был всё ещё востребован как инженер, у меня оставалась работа, так что я мог переночевать и на работе. Несколько раз я так и сделал. Чтобы никто не узнал, вечером, когда все уходили домой, я тоже делал вид, что ухожу, а потом просто возвращался. То же делал и утром.

Потом я всё же сказал своему знакомому, что поругался с женой. И он предложил мне пожить в квартире, в которой никто не жил. Там я впервые оказался наедине со своими мыслями. И неожиданно для себя, ведь я был очень далёк от Бога тогда, стал молиться. Я не знал даже "Отче наш", в тот момент я просто просил Бога показать мне выход из тупика. И Он показал.

Однажды я заметил, что по телевизору шла передача, которая так и называлась – "Выход из тупика". Эта передача была сделана в духе АА. Там разные люди, алкоголики, рассказывали о свих переживаниях, своей жизни. Я слушал их и понимал, что это всё обо мне. В тот же время эти люди рассказали, как стали жить трезво. Тогда я понял, что я тоже так хочу.

Когда я уже пришёл в сообщество АА (анонимные алкоголики), то понял, что двадцать лет пил ежедневно, менялись только дозы алкоголя. Это могла быть и бутылка пива, и в тот день я считал, что не пил вообще. Но хотя бы минимальная доза алкоголя во мне была всегда. За то время у меня ни разу не было желания бросить пить, я хотел научиться пить без последствий.

Сложно было не только бросить пить, но и восстановить свою жизнь после того, что я с ней сделал. Когда я оказался в АА, стал регулярно приходить домой и играть с детьми. Но жена всё ещё не разрешала мне оставаться на ночь. Мне от этого было внутренне очень плохо, ведь я же был трезвый, но я чувствовал, что доверие уже потеряно. Эта внутренняя боль достигла максимума перед днём рождения сына. Я знал, что произойдёт после окончания праздника, но понимал, что уйти из дома больше не смогу. Тогда я пришёл на работу к жене и сказал ей, что не приду на праздник. От этого стало ещё больнее. Пока я ехал на работу, всё внутри сжималось. В тот момент я понял, что в этой ситуации виноват только я, и я не хочу наказывать ни жену, ни сына. Я выбежал из троллейбуса, нашёл телефон-автомат, позвонил, и, наверное, впервые в жизни искренне извинился. Тогда мне стало очень легко, как будто камень с души упал.

После дня рождения сына я опять ушёл, но это было уже не так важно. Я перестал предъявлять жене требования, и где-то через полтора месяца она позволила мне и предложила вернуться.

Страх в глазах своей жены я видел ещё год после прекращения употребления. Это было потому, что я начал задерживаться на собраниях, и задерживался надолго. Бывало, приходил домой с собрания и в одинадцать вечера, а связаться с ней не мог, телефонов тогда ещё не было. Поэтому, когда я приходил домой, я видел на её лице настоящий страх. Но этот страх пропадал, когда жена понимала, что я трезвый. Конечно, на этом всё не закончилось. Нам пришлось заново договариваться о границах. Я дал право моей жене и тёще говорить обо мне то, что они хотят, и поступать соответствующе. Я понимал: что бы они обо мне ни думали, я это заслужил. Прошёл год, и у меня больше не было повода пить.

За время, что я находился в программе, мне серьёзно хотелось напиться только раз, когда за одну неделю я узнал два страшных диагноза: у отца нашли рак, а сын заболел сахарным диабетом. Но тогда я подумал, что от того, что я выпью, лучше не станет. Наоборот: если я выпью, мой сын потеряет отца, а отец – сына.

Программа АА научила меня анализировать своё собственное поведение. Я научился разговаривать с близкими. После того, как бросил пить, руки снова потянулись к рисованию, я стал видеть те краски, которые долго были смазаны алкоголем. Мне стало по-настоящему хорошо. Оказалось, моментов, вызывающих радость, очень много. Одно из самых больших достижений в моей трезвости, если не самое большое, – это то, что с женой сейчас как минимум последние двадцать шесть лет мы живём в состоянии медового месяца. Я знаю, что меня дома любят и ждут.

# Как спастись от алкоголизма?

**"Анонимные алкоголики" – это содружество, объединяющее мужчин и женщин, которые делятся своим опытом, силами и надеждами с целью помочь себе и другим избавиться от алкоголизма.**



- Единственное условие для членства – это желание бросить пить.
- Мы не платим ни вступительных, ни членских взносов.
- Мы сами себя содержим благодаря нашим добровольным пожертвованиям.
- Сообщество не связано с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или партией; не вступает в полемику по каким бы то ни было вопросам, не поддерживает и не выступает против чьих-либо интересов.
- Наша основная цель: оставаться трезвыми и помочь другим алкоголикам обрести трезвость.

У нас есть программа выздоровления от алкоголизма **(12 шагов)**, которая изложена в книге "Анонимные алкоголики". Она основывается на духовных принципах, которые являются ориентацией на общечеловеческие ценности: любовь к людям, стремление к взаимопомощи, добру и самосовершенствованию.

**12 Шагов АА** – это образ жизни, позволяющий страдающему алкоголику освободиться от пристрастия к алкоголю и стать счастливым и полезным человеком.

Для прохождения программы мы применяем принцип наставничества. Наставничество – это работа по передаче опыта прохождения программы **(12 шагов)** от одного алкоголика другому, а также постоянная ответственность за оказание помощи новичку, чтобы он мог научиться жить без алкоголя.

**Круглосуточная горячая линия АА:**
+375 (29) 276-83-17
+375 (44) 780-73-29

**Где нас найти?**

**г. Витебск**
Группа "Возрождение"
Ул. Гагарина, 46а, костел святого Антония
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.30, воскресенье (открытое собрание) – 14.30.
+375 (33) 696-45-88

**г. Орша**
Группа "Выход есть"
ул. Советская, 6, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00
+375 (29) 590-55-86

**г. Новополоцк**
Группа "Лотос"
ул. Я. Коласа, 52, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00-20.00, воскресенье – 15.00-17.00. Последнее воскресенье месяца – открытое собрание совместно с группой Ал-Анон.
+375 (33) 683-12-76

**г. Браслав**
Группа "Истина"
Ул. Советская, 2.
Расписание собраний: воскресенье – 10.00
+375 (33) 359-97-02

**г. Лепель**
Группа "У озера"
Ул. Ленинская, 12, костел.
Расписание собраний: вторник, четверг – 18.00, суббота – 17.00
+375(29)729-63-70
+375(29)704-72-60

**г. Глубокое**
Группа "Точка отсчёта"
Ул. Советская, 4.
Расписание собраний: воскресенье – 15.00
+375 (29) 519-03-21

**г. Поставы**
Группа "Радость"
Ул. Набережная, 8.
Расписание собраний: среда и воскресенье – 18.00
+375 (29) 737-47-64

**г.п. Шумилино**
Группа "Свет"
ул. Светлосельская 2
суббота 15.00
тел. +375 29 8173632
эл. почта: mifik29@gmail.com

**Ал-Анон** – это содружество родственников и друзей алкоголиков, которые делятся друг с другом своим опытом, силой и надеждой, чтобы решать наши общие проблемы. Мы верим, что алкоголизм – это семейная болезнь, и что перемена отношения к ней способствует выздоровлению. Группы Ал-Анон не связаны с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или сообществом, не участвуют в полемике по каким бы то ни было вопросам, не касающимся нашей деятельности. У нас одна цель – помочь семьям алкоголиков.

**Инфолинии сообщества Ал-Анон Беларуси:**
+375 (29) 550-54-24 инфолиния
+375 (44) 515-29-56 офис РОО
www.alanon.by – сайт сообщества Ал-Анон Беларуси.

**Цэнтр дапамогі залежным ад алкаголю і наркотыкаў "Светач"**

**211730, Віцебская вобласць, г.п.Бягомль, вул.Кірава, д.6**
**МТС +375 (33) 345 52 78;**
**8 (02157) 3-30-44**
**Сайт: http://aleteya.by/**



**"Светач" – месца, дзе людзі жывуць у цвярозай супольнасці цвярозым жыццём**

## Хвала Хрысту!



*Паважаная рэдакцыя! 3 студзеня дзень нараджэння адзначыў пробашч нашай Верхнядзвінскай парафіі* ***ксёндз Аляксандр Грыцкевіч.***

*З гэтай нагоды хочацца ад усёй нашай каталіцкай супольнасці павіншаваць святара і падзякаваць яму за плённую працу.*

*Ксёндз Аляксандр узначальвае нашу Верхнядзвінскую парафію сем гадоў. За гэты час ён стаў для нас не проста добрым пастырам, але блізкім, нават родным чалавекам. Менавіта так, бо з любоўю і клопатам пра кожнага свайго парафіяніна служыць Богу і людзям наш святар. Мы звяртаемся да ксяндза па духоўную падтрымку і малітву, па параду і дапамогу і заўсёды атрымліваем іх. Многія з нас адчулі на сабе плён яго малітоўнай дапамогі.*

*Ксёндз Аляксандр вучыць нас быць адданымі хрысціянскай веры, цвёрда стаіць на прынцыпах справядлівасці, адстойвае сапраўдныя маральныя каштоўнасці. Гэтая яго паслядоўнасць і грунтоўнасць у веры умацоўвае і наш дух, настройвае жыць і працаваць па Божых законах.*

*Кожнае казанне святара на дасканалай беларускай мове кранае душу, прымушае разважаць і адкрываць новыя духоўныя вышыні. У касцёле мы знаходзім адказы на галоўныя свае пытанні пра сэнс жыцця, пранікаемся любоўю да Бога і напаўняем гэтай любоўю свае сэрцы.*

*Пад кіраўніцтвам нашага святара парафія развіваецца і папаўняецца новымі вернікамі. Усё больш прыходзіць у касцёл дзяцей і маладых людзей, з якімі ксёндз Аляксандр нястомна працуе: праводзіць заняткі ў парафіяльнай школе, ладзіць "Канікулы з Богам", "Школу міністранта", ездзіць у падарожжы па святынях Беларусі.*

*Ксёндз падтрымлівае ў парафіі найлепшыя хрысціянскія традыцыі і ўводзіць новыя: аднаўленне шлюбаў, парафіяльных святаў, сумесныя вандроўкі, стварэнне малітоўных груп.*

*Прыгажэе і сам касцёл: абнаўляюцца будынак і тэрыторыя, летам храм патанае ў кветках, а зімой тут самая арыгінальная ў горадзе ілюмінацыя. Увогуле ўпрыгожванне да святаў заслугоўвае асаблівай ацэнкі: дзякуючы выключнаму густу нашага святара чароўным выглядам касцёла захапляюцца ўсе яго госці. А спевы касцельнага хору ствараюць тут цудоўную, узнёслую атмасферу.*

*Мы сардэчна дзякуем ксяндзу Аляксандру за самаадданую службу і жадаем плёну ў працы і адметнага святарскага жыцця! Будзем маліцца, каб Бог адарыў святара здароўем і сілай для працы, благаслаўляў ва ўсіх пачынаннях, вёў шляхам узрастання ў веры і мудрасці! Каб Божая Маці атуляла нашага пробашча сваёй міласэрнасцю і дабрынёй!*

***З павагай, вернікі Верхнядзвінскай парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі***

## Хвала Хрысту!

*Шаноўны* ***біскуп Алег!*** *Вернікі Вашай роднай Браслаўскай парафіі віншуюць Вас з гадавінай біскупскага пасвячэння!*

*Дзякуем за Вашае служэнне і прыклад хрысціянскага жыцця ў веры, надзеі і любові! Няхай Вашае сэрца будзе заўсёды адкрытым на іншых людзей і помыслы Божыя! Жадаем Вам несці супакой туды, дзе Вы ёсць, суцяшэнне і надзею тым, хто побач з Вамі, дабро кожнаму, хто да Вас звяртаецца! Няхай Добры Бог адудзячыць Вам і блаславіць у кожны дзень жыцця!*

***Вернікі Браслаўскай парафіі***

## Хвала Хрысту!

*З нагоды блізкага юбілею віншуем* ***ксяндза Юрыя Жаўнаровіча*** *і жадаем моцнага здароўя, натхнення і вытрымкі на доўгія гады душпастырскага служэння! Ніхто, акрамя Хрыста, да канца не ведае, якія вялізныя намаганні даводзіцца прыкладваць святару ў сваім служэнні. Нягледзячы на гэта, у Вашых вачах мы бачым любоў і дабрыню.*

*Няхай добры Бог ахінае Вас сваімі ласкамі, чувае над Вамі і падтрымлівае сваёй рукой! Няхай Марыя, Каралева Анёлаў, будзе Вашым шчытом і абаронай, атуляе Вас сваёй мацярынскай апекай і напаўняе сэрца супакоем, надзеяй, любоўю ды падзякай!*

*Дасылаем шчырыя словы ўдзячнасці Вашым бацькам з пажаданнямі моцнага здароўя і даўгалецця!*

***Вернікі парафіі Маці Божай Анёльскай (в. Замошша)***

## Хвала Хрысту!

*З павагай і ўдзячнасцю віншуем з Днём нараджэння (31 студзеня)* ***ксяндза Юрыя Жаўнаровіча****!*

*Няхай Езус валадарыць у Вашым сэрцы, напаўняе яго дыханнем Божай любові і прамянямі Святога Духа! Жадаем моцнага здароўя, аптымізму, бадзёрасці духу, мудрых рашэнняў і разумення Божай волі ў Вашым служэнні!*

*Дзякуем Вам за Вашу нялёгкую працу. Дзякуем Пану Богу, што Вы ў нас ёсць. Нізкі паклон ад усіх нас.*

***З малітвай, вернікі парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў в. Ахрэмаўцы і супрацоўнікі Ахрэмавецкага с/с***

## Просты гадзіннік Папы Францішка быў прададзены на аўкцыёне за рэкордную суму

**Рынкавы кошт гэтай мадэлі перавышаны... больш чым у тысячу разоў! І гэта не першае дабрачыннае ахвяраванне Папы Францішка.**

Фонд Браяна Ла Віялета – гэта арганізацыя, створаная ў гонар падлетка-калекцыянера гадзіннікаў у ЗША, які трагічна загінуў у 1992 годзе. Мэтай дзейнасці фонду быў збор сродкаў для таленавітай моладзі з бедных сем'яў, што дае магчымасць яго стыпендыятам вучыцца ва ўніверсітэтах. Папа Францішак вырашыў далучыцца да працы, якую вядзе гэты дабрачынны фонд.

Да Папы прадстаўнікі фонду дабраліся дзякуючы падтрымцы ардынарыя дыяцэзіі Грын-Бэй біскупа Дэвіда Рыкена. Для аднаго з аўкцыёнаў Святы Айцец ахвяраваў свой гадзіннік Swatch. Пасля завяршэння інтэрнэт-аўкцыёну ў канцы лістапада папскі гадзіннік быў прададзены за 56 250 долараў. ПРы гэтым рынкавая цана гадзінніка складае каля 55 долараў, так што просты падлік паказвае: кошт вырас больш чым у тысячу разоў! Гэты вынік неўзабаве будзе занесены ў Кнігу рэкордаў Гінеса. Самы дарагі гадзіннік, прададзены дагэтуль, каштаваў 45 тысяч долараў.

Тут таксама варта адзначыць, што гэта не першы




падарунак для дабрачынных аўкцыёнаў ад цяперашняга Папы. Тры гады таму ён прадаў на аналагічным аўкцыёне матацыкл Harley-Davidson (з аўтографам!), які яму падарылі фанаты Harley. Гэта быў другі выпадак з матацыклам: першы Harley, прададзены Ватыканам, каштаваў 241 500 еўра, а выручку накіравалі ў прытулак для бяздомных Caritas на рымскім вакзале Тэрміні. У 2017 годзе спартыўны аўтамабіль Lamborghini Huracan прадалі на аўкцыёне за 715 000 еўра, а атрыманыя сродкі размеркавалі паміж папскімі дабрачыннымі арганізацыямі.

Варта адзначыць, што прадметы, якімі карысталіся Пантыфікі, з'яўляюцца каштоўнымі здабыткамі для калекцыянераў. Таму на аўкцыёнах яны дасягаюць кошту, значна вышэйшага за рынкавы.

***По матэрыялах pl.aleteia.org***
***Пераклад Марыны Сінкевіч***

## З рэдакцыйнай пошты



## Памятная сустрэча

Вось і закончыўся 2022 год. Шмат чаго было ў ім: і радаснага, і не вельмі. Асабліва запомніліся святы, паездкі, сустрэчы.

Вось 30 лістапада ў лынтупскім касцёле адбылася сустрэча супольнасцяў "Маці ў малітве" Лынтупскай і Камайскай парафій. Гэта было ў свята апостала Андрэя Першазваннага, тытул якога носіць касцёл. Цікава, што ў кожнай групе – па дванаццаць чалавек. А апостал Анрэй Першазванны першы акурат з ліку тых дванаццаці, каторых паклікаў Езус.

Камайская група прыбыла на свята па запрашэнні лынтупчан. Спачатку была імша ў касцёле ў прысутнасці святароў з Пастаўскага, Астравецкага і Мядзельскага дэканатаў. Святую імшу цэлебраваў кс. Віктар Захарэўскі з Варнянаў. Казанне яго было змястоўным і цікавым. Імша дапаўнялалая цудоўным спевам святара.

Сустрэча працягнулася ў парафіяльным доме, дзе кіраўніца лынтупскай супольнасці Ганна Лагунёнак расказала пра гісторыю касцёла, пра некаторых святароў, якія служылі ў Лынтупскай парафіі.

Затым прысутныя накіраваліся на пачастунак за цудоўна афармленым сталом, дзе працягваліся размова, успаміны, абмен вопытам работы і сувенірамі. Асабліва былі адзначаныя жанчыны-маці, якія выхавалі сыноў-святароў – Ганна Лагунёнак і Любоў Міхайлава. На сустрэчы прысутнічалі сёстры законныя Служабніцы Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі Рузанна і Марыя, некаторыя жанчыны – кандыдаткі ў супольнасць.

Гаспадары падарылі камайцам магнацікі з выявай лынтупскага касцёла і малітву да св. Ганны – Маці Марыі, ушанаванне якой таксама адыецца ў мясцовым касцёле.

Напрыканцы ўсе прачыталі малітву "Анёл пански" за памерлых святароў, якія служылі ў Лынтупах і Камаях у розны час.

Несумненна, такія сустрэчы запамінаюцца надоўга. Яны аб'ядноўваюць, узвышаюць, узбагачаюць духоўна.

Усім жадаем шчаслівага, мірнага і багатага духоўна і матэрыяльна новага 2023 года!

***Генавефа Дубіловіч,*** *Камаі*

## Дома спыняецца час

Скончыўся чарговы святочны перыяд, які я часткова правяла ў новым доме, а часткова там, дзе была выхавана.

Для мяне амаль няма розніцы – дзе, але вельмі важна – з кім. Так Раство я правяла ў сваёй сям'і: разам з бацькамі і братам, а бліжэй да Новага года паехала на сваю радзіму – у дом, дзе нарадзілася і расла. У мяне не атрымалася правесці шмат часу дома, бо, як заўсёды, было шмат справаў і трэба было некуды спяшацца. Але там лячылі не толькі сцены, таксама і падлога, і дах, і свой ложак.

Перыяд Нараджэння Пана – гэта магічны, цудоўны час. Думаецца пра штосьці добрае, з'яўляецца надзея на лепшую будучыню і вера ў цуд, усе навокал дзеляцца дабром, пазбягаюць сумных і непрыемных размоваў. Атмасфера ў хаце – жывая ёлка, пах бабулінай ежы – увесь час нагадвае пра свята. І ва ўсім гэтым ты абстрагуешся ад сваіх штодзённых праблемаў, вяртаешся ў бесклапотнае дзяцінства, п'еш гарбату з любімага кубка, перагортваеш старонкі фотаальбомаў і ўспамінаеш, як перажываў той ці іншы момант.

Дома спыняецца час. І ў той жа момант ты бачыш, як хутка ляціць жыццё. У суседкі з'явіліся зморшчыны пад вачыма, бабуля стала павольней хадзіць, рамонту на кухні ўжо дзесяць гадоў няма, гірлянда, купленая бацькам некалі ў Польшчы, ужо не гарыць, ёлачныя цацкі паразбіваліся, шмат людзей з фотаальбомаў ужо няма на гэтым свеце. І табе ўжо даўно не восем, як на адным з любімых калядных здымкаў.

І вось ты вяртаешся да сябе дамоў. Адпачыўшы, набраўшыся сіл, насычаны размовамі. Бо бацькоўскі дом – гэта месца сілы, хуткая зарадка, якая не шкодзіць. І пры гэтым усім ты выдатна ўсведамляеш, наколькі кароткае імгненне і як дарага яно каштуе!

***Яна Чайко***

# Нядзеля Божага Слова: запрашэнне чэрпаць са скарбніцы Пісанняў

**У студзені, у III нядзелю звычайнага перыяду, ад нядаўняга часу Касцёл адзначае Нядзелю Божага Слова. Папа Францішак устанавіў гэту цэлебрацыю, пачынаючы ад 2020 г., каб падкрэсліць цэнтральнае значэнне, якое маюць Святыя Пісанні для жыцця каталіцкіх супольнасцяў і кожнага верніка. Гэта выдатная нагода, каб нам паразважаць над тым, як мы можам паўней чэрпаць са "скарбніцы Слова" (Aperuit illis, 2), якім насычаюцца нашыя душы.**

■ **Айцец Віктар Жук SJ**, *Віцебск*

Адным з рытуалаў, які Папа Францішак зазахвочвае здзейсніць у Нядзелю Божага Слова, з'яўляецца "інтранізацыя Бібліі": як гэта ўжо прынята ў многіх касцёлах, у кожнай святыні Святое Пісанне павінна знаходзіцца на асаблівым месцы і атрымліваць пашану, падобную да табэрнакулюму, дзе захоўваецца Цела Хрыста. Няхай гэты знешні знак падкрэслівае нашае ўнутранае стаўленне да той крыніцы, якая расказвае гісторыю збаўлення чалавечай сям'і і нашу асабістую. Таксама ў нашых дамах Біблія павінна заняць годнае месца, быць не проста адной з многіх кніг на кніжнай палічцы, а сапраўднай "Кнігай кніг". Аднак што больш важна –

**Святое Пісанне не можа пакрывацца пылам, чакаючы днямі і тыднямі, калі мы яго адкрыем.**

"Няведанне Пісання – гэта няведанне Хрыста", – канстатуе св. Геранім, перакладчык Бібліі на лацінскую мову ў V ст. Успрымаючы пазітыўна гэтае сцвярджэнне, калі мы хочам паглыбляць знаёмства з нашым Збаўцам, варта мець звычку рэгулярна ў адпаведным настроі чытаць старонку Бібліі, просячы Духа Святога, каб прамовіў да нас праз словы Пісання.

**Чаму варта чытаць Біблію?**

"Паміж Святым Пісаннем і вераю людзей ёсць глыбокая сувязь. Паколькі вера нараджаецца са слухання, а слуханне засяроджана на слове Хрыста (пар. Рым 10, 17), <...> вернікі павінны прызначыць час на слуханне слова Пана як падчас літургічнага дзеяння, так і падчас малітвы і асабістага разважання", – піша Папа Францішак *(Aperuit illis, 7)*. Наш кантакт з Бібліяй – гэта акт веры ў тое, што Нябесны Айцец хоча гаварыць са сваімі дзецьмі і для гэтага спасылае нам Духа Святога. Успомнім, што адзін з дароў Духа – розум – датычыць не проста нашага ўмення разумець, рабіць лагічныя высновы. Ён робіць нас здольнымі ўспрымаць усё, што адбываецца з намі і вакол нас, праз прызму Божага аб'яўлення, г. зн. у святле канчатковай праўды пра наша прызначэнне. Касцёл вучыць нас, што той самы Дух, Які натхніў святых аўтараў кніг Бібліі, дае ахвотным святло, каб правільна засвоіць праўду пра збаўленне, схаваную на старонках сакральных тэкстаў. Уваскрослы Хрыстус перад тым, як узысці на неба, адкрывае вучням розум, каб яны разумелі Святое Пісанне (пар. Лк 24, 45). Тое самае праз свайго Духа Пан робіць і з намі, каб мы былі "гатовымі даць адказ кожнаму, хто патрабуе ад нас слова пра нашу надзею" (пар. 1 Птр 3, 15).

Варта лічыцца з тым, што імкненне заглыбіцца ў праўду Божага слова можа выклікаць пэўны ўнутраны супраціў ці барацьбу: гэта нармальная з'ява ў духоўным жыцці, калі ў адказ на святое жаданне "актывізуецца" таксама і варожая сіла, якая хоча перашкодзіць нам наблізіцца да Бога. Злы дух можа дзейнічаць праз розныя цалкам рацыянальныя аргументы, ставячы пад пытанне сэнс нашых высілкаў і нават важнасць саміх Пісанняў.

Св. Аўгусцін добра апісвае спакусу фанабэрыстых, якой сам паддаўся ў маладосці, абясцэньваць мудрасць, схаваную ў Бібліі, яе ўяўнай прымітыўнасцю і непаслядоўнасцю (пар. "Споведзь", кн. 3, V, 9).

**Якімі перакладамі Святога Пісання карыстацца?**

Нашае жаданне знаёмства з Божым словам азначае гатоўнасць быць паcапраўднаму "вучнямі": вывучаць пэўныя тэрміны (часам на старажытных мовах!) і іх сувязь з іншымі паняццямі, запамінаць некаторыя ключавыя фразы, імкнуцца пазнаць кантэкст… Святло Духа, якое дасягае глыбіні сэрца, найчасцей не мінуе іншыя нашыя здольнасці: памяць, уменне разважаць і г.д. Канешне, вельмі дапамагае, калі маем добрых настаўнікаў (ужываю ці інакш) і адпаведныя дапаможнікі: добрыя выданні і каментары. На беларускай мове на дадзены момант існуе каталіцкі пераклад Новага Запавету з кароткімі ўводзінамі да кожнай кнігі, які варта мець кожнай сям'і. Адпаведная камісія працягвае працу над афіцыйным перакладам Старога Запавету. Распаўсюджаны поўны беларускамоўны пераклад Бібліі, выдадзены "Біблейскім таварыствам" на падставе рукапісаў знакамітага каталіцкага дзеяча кс. Уладзіслава Чарняўскага (1916-2001). Бадай што найбольш папулярным сярод католікаў рускамоўным выданнем з'яўляецца так званая "Брюссельская Библия" на падставе Сінадальнага перакладу РПЦ, якая упершыню надрукаваная ў 70-х гг. XX ст. і змяшчае даволі падрабязныя і якасныя каментары (часткова ўзятыя з "Ерузалемскай Бібліі") і іншыя дадатковыя




матэрыялы. На яе падставе, апроч сучасных перакладаў з адпаведнымі дадаткамі, дагэтуль РБО робіць новыя выданні перакладу канца XIX ст., які стаў класічным. Але католікам, каторыя купляюць Біблію, варта звяртаць увагу, ці ёсць у выданні тыя кнігі, якія пратэстанты лічаць "другакананічнымі": трэба праверыць, ці ёсць там 1-я і 2-я Кнігі Макабэяў. Каталіцкі канон Святога Пісання ў частцы Старога Запавету складаецца з 46 кніг: акрамя кніг габрэйскага (і пратэстанцкага) канона, ўключае ў сябе сем дадатковых твораў, напісаных на грэцкай і часткова арамейскай мовах. У інтэрнэце можна знайсці самыя разнастайныя пераклады на розныя мовы з дадаткамі, напрыклад, слоўнікамі. Варта карыстацца ўсім тым, што дапамагае лепш засвоіць Божае слова паводле каталіцкай традыцыі. Але мець прынамсі адно папяровае выданне ўсё ж неабходна.

**Чаго варта католікам павучыцца ў пратэстантаў?**

Будзем памятаць, што сёння мы знаходзімся ў прывілеяваным становішчы ў параўнанні са шматлікімі пакаленнямі католікаў, якія да сярэдзіны XX ст. не мелі доступу да перакладаў Бібліі на свае нацыянальныя мовы. Сітуацыя раней была падобная да літургіі: тэкст Святога Пісання лічыўся надта "сакральным", каб яго перакладаць на мову, якой карысталіся ў штодзённасці. У гэтым сэнсе вернікі пратэстанцкіх канфесій маюць нашмат даўжэйшую традыцыю прамога кантакту з біблійным тэкстам. Акрамя гэтага, іх падыход характарызуецца настойлівым заахвочваннем да блізкага асабістага знаёмства са словамі Пісанняў, чаго нам, католікам, варта ў іх вучыцца. Гаворка не пра тое, каб пераймаць прынцып "sola Scriptura" ("толькі Пісанне"), які быў у аснове Рэфармацыі, аднак нам ёсць шмат над чым працаваць, каб ведаць тую мову, на якой спрадвечны Бог звяртаецца да чалавека, каб мы ўмелі пачуць Яго, калі Ён гаворыць з намі.

"Дзень, прысвечаны Бібліі, не можа быць „раз на год", але ў кожны дзень года, бо мы павінны абавязкова паглыбляць знаёмства са Святым Пісаннем і Уваскрослым", – кажа Папа Францішак. Бог выкарыстоўвае шмат шляхоў, каб быць у дыялогу з намі, спасылаючы разнастайныя знакі сваёй прысутнасці і любові. Святое Пісанне з'яўляецца Яго асаблівым спосабам расказаць нам пра гісторыю збаўлення і прывесці да веры, што кожны з нас – таксама частка гэтай гісторыі. Пастараемся ж не змарнаваць гэтага шанцу, якім Пан праз свой Касцёл хоча адарыць нас, запрашаючы да дыялогу з Ім.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

Каталіцкі ВЕСНІК

№1 (142)
студзень 2023 г.

# Чаму адрозніваюцца тэксты Святога Пісання?

***“Пахвалёны Езус Хрыстус! У свята Беззаганнага Зачацця чытаецца ўрывак з Евангелля ад Лукі (Лк 1,26–38), дзе анёл вітае Марыю словамі “Вітай, поўная ласкі, Пан з Табою”. У надзвычайнай форме рымскага абраду на гэтае свята дадзены той жа сюжэт (Лк 1,26–28), але там анёл кажа словы “Вітай, поўная ласкі, Пан з Табою, благаслаўлёная Ты між жанчынамі”. Калі ўзяць афіцыйны беларускі пераклад Новага Запавету, то там другая частка прывітання – “благаслаўлёная Ты між жанчынамі”– адсутнічае ўвогуле. Як прынята тлумачыць, што ў некаторых перакладах Святога Пісання гэтыя словы ёсць, а ў некаторых няма? Якая рацыя стаяла за тым, каб апусціць іх у афіцыйным беларускім перакладзе? Дзякуй.”***

***Максім***

– Шаноўны Максім! Напачатку варта сказаць, адкуль перакладаецца тэкст у лекцыянарыях, а адкуль – у афіцыйных выданнях Касцёла. Тэкст лекцыянарыя перакладаецца з лацінскага ўзорнага выдання Лекцыянарыя Рымскага Імшала 1970 г., які заснаваны на лацінскім перакладзе Старога і Новага Запаветаў (Вульгата) (пар. Consilium ad exsequendam Constitutionem de sacra Liturgia, Інструкцыя „De popularibus interpretationibus conficiendis”, 25.01.1969, „Notitiae” 5 (1969) 3-12; Declaratio circa interpretationes textuum liturgicorum „ad interim” paratas, „Notitiae” 5 (1969) 69; Святая Кангрэгацыя Божага Культу, Declaratio de interpretatione textuum liturgicorum, „Notitiae “5 (1969) 333-334). Афіцыйнае ж выданне рыхтуецца на падставе перакладу з арыгінальнай мовы Старога і Новага Запаветаў – габрэйскай і грэцкай адпаведна. Вульгата ў сваю чаргу не ўлічвае самых новых адкрыццяў у галіне біблістыкі, а менавіта больш грунтоўнага даследавання такой рэчаіснасці, як крытыка тэксту. Пры працы з Новым Запаветам прынята выкарыстоўваць для тлумачэння аўтарытэтнае выданне Nestle Aland “Novum Testamentum Graece” 28th Revised Edition. Варта пра гэта крыху сказаць.

Прайшло больш за стагоддзе пасля таго, калі ў 1898 годзе Вюртэмбергскае Біблейскае таварыства апублікавала першае выданне Novum Testamentum Graece Эберхарда Нэстле (†1913). Неўзабаве пасля гэтага ў 1904 г. Брытанскае і іншыя замежныя біблейскія таварыствы таксама прынялі гэты тэкст, і з таго часу ён атрымаў распаўсюджванне сотнямі тысяч асобнікаў. Э. Нэстле выпусціў тэкст, заснаваны на працах выдатных крытыкаў дзевятнаццатага стагоддзя. Ён параўноўваў выданні Тышэндорфа, Уэсткота і Хорта і Уэймута. З 21-а выдання Novum Testamentum Graece (1952 г.) Курт Аланд стаў намеснікам рэдактара. Па просьбе Эрвіна Нэстле ён прагледзеў крытычны апарат, супаставіўшы яго з першакрыніцамі, пашырыўшы колькасць цытаваных сведкаў, і ў рэшце рэшт падрыхтаваў 25-е выданне 1963 года.

Пачынаючы з 1950-х гадоў са згоды Эрвіна Нэстле (†1972) Аланд распачаў падрыхтоўку да грунтоўнага перагляду тэксту, які завяршыўся абноўленым матэрыялам і крытычным апаратам 26-га выдання. Вялікія адкрыцці рукапісаў 20-га стагоддзя, асабліва ранніх папірусаў, зрабілі гэтае пытанне тэрміновым. У 1955 г. К. Аланд быў запрошаны ў рэдакцыйны камітэт разам з М. Блэкам, Б. М. Мецгерам, А. Вікгрэнам і спачатку А. Вёобусам, а пазней таксама кардыналам К. М. Марціні (а з 1982 г. Б. Аланд і Дж. Каравідопуласам) для стварэння выдання “Грэчаскі Новы Запавет – выданне грэцкага тэксту з крытычным наборам выбраных урыўкаў, прызначаных для прафесійных перакладчыкаў Бібліі ва ўсім свеце” (1-е выд. – 1966 г., 2-е выд. – 1968 г.). Тэксты абодвух выданняў аб’ядналі, так што ў рэшце рэшт 26-е выданне Novum Testamentum Graece (1979) і трэцяе выданне Новага Запавету па-грэцку (1975) мелі адзін і той жа асноўны тэкст. Гэтыя два выданні першапачаткова планаваліся з рознымі мэтамі, і яны адпаведна адрозніваюцца. Грэчаскі Новы Запавет быў прызначаны для перакладчыкаў, і хоць яго крытычны апарат абмежаваны асобнымі ўрыўкамі, інфармацыя аб тэкставай традыцыі ў гэтых урыўках максімальна поўная. Гэтыя фрагменты часцей за ўсё з’яўляюцца тымі, у якіх сучасныя пераклады адрозніваюцца, і перакладчыкі павінны ведаць прычыны іх адрозненняў. Novum Testamentum Graece, наадварот, імкнецца даць чытачу крытычную ацэнку ўсёй тэкставай традыцыі. Яго крытычны апарат адпаведна больш шырокі, асаблівая ўвага надаецца перадачы тэксту ранняга перыяду. Тэкст, агульны для гэтых двух выданняў, быў прыняты на міжнародным узроўні Біблейскімі таварыствамі, і пасля пагаднення паміж Ватыканам і Аб’яднанымі біблейскімі таварыствамі ён паслужыў асновай для новых перакладаў і для перагляду тэкстаў, зробленых пад іх кантролем. Натуральна, трэба разумець, што гэты тэкст з'яўляецца працоўным: яго трэба разглядаць не як канчатковы, але як стымул для далейшых намаганняў па вызначэнні і праверцы тэксту Новага Запавету.

Мэта кожнага выдання (на сённяшні дзень існуе 28 выданняў) застаецца адна і тая ж, а менавіта даць карыстальніку добра абгрунтаваны працоўны тэкст разам са сродкамі яго праверкі або, у якасці альтэрнатывы, выпраўлення. Адпаведна, выданне змяшчае ўсе неабходныя для гэтага варыянты ў максімальна поўнай форме. Уключаныя варыянты важныя альбо для зместу, альбо для іх гістарычнага значэння. Карыстальнік таксама можа атрымаць дакладнае ўяўленне аб колькасці варыяцый у тэкставай традыцыі Новага Запавету, пра агульны характар гэтых варыянтаў, пра матывы і паходжанне, якія яны адлюстроўваюць.

Варта падаць некаторыя тэксты, якіх ужо няма ў 28-выданні Novum Testamentum Graece, але да каторых так “прызвычаілася” наша вуха. Вось яны: Мц 17,21 – “Гэты ж род выганяецца толькі малітваю і пастом”; Мц 18,11 – “Бо прыйшоў Сын Чалавечы знайсці і збавіць тое, што загінула”; Мц 23,14 – “Гора вам, кніжнікі і фарысеі, крывадушнікі, што аб’ядаеце дамы ўдоў і крывадушна доўга моліцеся: за тое атрымаеце тым большае асуджэнне”; Мк 7,16 – “Калі хто мае вушы, каб слухаць, няхай слухае”; Мк 9,44 – “Дзе чарвяк іх не памірае і агонь не згасае”; Мк 11,26 – “Калі ж не даруеце, дык і Айцец ваш Нябесны не даруе вам грахоў вашых”; Мк 15,28 – “І збылося слова Пісання: “і да злодзеяў залічаны”; Лк 17,36 – “Двое будуць на полі: адзін возьмецца, а другі пакінецца”; Лк 23,17 – “А яму трэба было для свята адпусціць ім аднаго вязня”; Ян 5,4 – “Бо анёл Пана час ад часу хадзіў у купальню і ўзварушваў ваду, і хто першы ўваходзіў у яе па ўзварушэнні вады, той аздараўляўся, якой бы ні быў апантаны хваробай”; Дз 8,37 – “Філіп жа сказаў яму: калі верыш ад шчырага сэрца, можна. Ён сказаў у адказ: веру, што Езус Хрыстус ёсць Сын Божы”; Дз 15,34 – “Але Сіла вырашыў застацца там”; Дз 24,7 – “Але тысячнік Лісій, прыйшоўшы, з вялікім гвалтам узяў яго з рук нашых і паслаў да цябе”; Дз 28,29 – “Калі ён сказаў гэта, юдэі пайшлі, шмат спрачаючыся паміж сабою”; Рым 16,24 – “Ласка Пана нашага Езуса Хрыста з усімі вамі”. Амэн.

Цяпер вернемся да нашага тэксту. Хоць многія тэкстуальныя сведкі (у тым ліку A (агульнапрынятае ў біблістыцы абазначэнне Александрыйскага кодэксу), C (Кодэкс Эфрэма), D (Кодэкс Безы) Θ (Кодэкс Карыдэці) і большасць мінускулаў, за якімі ідзе Textus Receptus) чытаюць пасля σοῦ (ὁ κύριος μετὰ σου (Лк 1,28) “Пан з табою”) словы εὐλογημένη σὺ ἐν γυναιξίν (“благаслаўлёная Ты між жанчынамі”), верагодна, што перапісчыкі ўставілі іх сюды з верша 42 першага раздзела Евангелля паводле св. Лукі, дзе яны засведчаны большасцю тэкстаў. Калі б гэтыя словы сапраўды былі арыгінальнымі ў гэтым вершы, то няма належнага вытлумачэння, чаму іх апусцілі ў шырокім спектры ранніх сведкаў (у тым ліку א (Сінайскі кодэкс), B (Ватыканскі кодэкс), L (Кодэкс Рэгіус), W (Вашынгтонскі кодэкс), Ψ (Кодэкс Атус Лаўрэнзіс) і іншых. Вось гэта і ёсць прыклад таго, навошта ў біблістыцы так неабходна крытыка тэксту і самі крытычныя выданні Бібліі.

Таму ў Літургіі традыцыйна гэты дадатак належыць чытаць, а пры самастойным чытанні Бібліі на беларускай мове названы дадатак не будзе прачытаны ў 28 вершы першага раздзела, але ўжо ў 42 выразна прагучыць “благаслаўлёная Ты між жанчынамі”.

*Літаратура*

*- Eberhard Nestle, Erwin Nestle, Kurt Aland, Barbara Aland, Novum Testamentum Graece, 28, Stuttgart: Deutsche Bibelstiftung, 2012.*

*- Bruce Metzger, A Textual Commentary on the Greek New Testament, Second Edition a Companion Volume to the United Bible Societies' Greek New Testament (4th Rev. Ed.). – London – New York, 1994.*

*- А.А. Алексеев, Текстология Нового Завета и издание Нестле-Аланда. – СПб. 2012.*

***Кс. Валерый Марціноўскі,***
*доктар тэалогіі, г. Віцебск*

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Людміла Падаляка** *(Полацк)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Чэслава Сварцэвіч** *(Таргуны)*, **Марыя Лекарэвіч** *(Ярэва)*, **Леакадзія Шырэй** *(Навасёлкі)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Рэгіна Ракуцкая** *(Браслаў)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Часлава Паршута** *(Павяцце)*, **Уладзімір Аношка** *(Дубінец)*, **Ганна Барысевіч** *(Глыбокае)*, **Данута Ільіч** *(Яцкавічы)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Марыя Канецкая** *(Маладзечна)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Марыя Грашчэнка** *(Малева)*, **Святлана Урбановіч** *(Захарнічы)*, **Зінаіда Рамашка** *(Мінск)*, **Мікалай Рагожкін** *(Новы Пагост)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Людміла Падаляка** *(Полацк)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф’я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Эма Роўда** *(Новалукомль)*, **Вацлава Савіцкая** *(Глыбокае)*, **Святлана Зайцава** *(Свідно)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Алена Емельянава** *(Дунілавічы)*, **Ірына Вечарынская** *(Гродна)*, **Альдона Сіўко** *(Забалоцце)*, **Эмілія Стакла** *(Юльянова)*, **Даната Варанько** *(Друя)*, **Валерыя Шымковіч** *(Навасёлкі-2)*, **Алена Сакалоўская** *(Павяцце)*, **Ванда Кірылава** *(Ёды)*, **Вера Беганская** *(Жары)*, **Марыя Рагіня** *(Стары Двор)*, **Эльвіра Шук** *(Павяцце)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Святлана Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Аліна Маслоўская** *(Ахрэмаўцы)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Ада Шумская** *(Наваполацк)*, **Соф’я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абаб’е)*, **Аліна Шакур** *(Вялікае Абаб’е)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Карневіч Г.В.** *(Ніўнае)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Святлана Зайцава** *(Свідно)*, **Эльвіра Богуш** *(Глінічына)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Валянціна Пятрова** *(Мёры)*, **Ала Пятрова** *(Мёры)*, **Марына Вішнеўская** *(Мёры)*, **Віктар і Ірына Муляронак** *(Глыбокае)*, **Даната Сярогіна** *(Глыбокае)*, **Зінаіда Рамашка** *(Мінск)*, **Іна Бабкевіч** *(Мядзел)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Ірына Рашкевіч** *(Пашкоўшчына)*, **Ніна Васеха** *(Наваполацк)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Рэгіна Ціхая** *(Камарова)*, **Ядвіга Піліпенка** *(Параф’янава)*, **Бернарда Піваровіч** *(Вайнюнцы)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Людміла Страчынская** *(Івянец)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Клемянціна Крымская** *(Наваполацк)*, **Леангіна Астаноўка** *(Атокі)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Дана Грабоўская** *(Наваполацк)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Марыя Лубнеўская** *(Мядзел)*, **Алег Галіна** *(Вайнюнцы)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Крысціна Цярэнцьева** *(Браслаў)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Рэгіна Белюн** *(Петкунішкі)*, **Галіна Кіжла** *(Кумпіні)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Сульвіна Кушнеровіч** *(Сушчэва)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***

# ПАЗНАВАЙКА

**ПАЗНАЁМ ХРЫСТА І ЯГО КАСЦЁЛ!**

У сённяшнім нумары "Каталіцкага Весніка" прапануем табе, дарагі сябра, выканаць заданні і паразважаць на тэму "Прабачэнне".

**1 ЗАДАННЕ**

Прачытай словы з Бібліі пра прабачэнне ў правільным парадку. Атрыманы адказ запішы ніжэй!










**АДКАЗ:** ______________________________

**2 ЗАДАННЕ**

Правільна выканаеш наступнае заданне толькі тады, калі выпішаш па парадку словы чырвонага колеру! Запішы ніжэй, што атрымалася, уважліва прачытай і паразважай над сэнсам гэтых слоў!




**АДКАЗ:** ______________________________

**3 ЗАДАННЕ**

Прачытай наступныя словы, якія сказаў Папа Францішак пра прабачэнне ў правільным парадку! Разам з дарослымі паразважай над гэтым выказваннем! Адказ запішы!

Свет мае патрэбу ў прабачэнні;

занадта шмат людзей жывуць замкнёнымі ў горы

замест таго, каб здабыць радасць міру!

не здольныя да даравання, руйнуючы сваё жыццё

і вырошчваюць нянавісць, таму што яны

і жыццё другіх,

**ПАРАДАК ВЫРАЗАЎ ПА КОЛЕРУ:**



**АДКАЗ:** ______________________________

**4 ЗАДАННЕ**

**ДАРАГІ СЯБРА! ПРАЧЫТАЙ НАСТУПНЫЯ ПАРАДЫ АД "ПАЗНАВАЙКІ"**

**УМЕЙ ПРАБАЧАЦЬ:**

- Пазбаўся ад пачуцця гневу і ад жадання расправіцца з тым, хто цябе пакрыўдзіў;
- Забудзь крыўду і зло;
- Заўсёды прабачай і стаўся да тых, хто цябе пакрыўдзіў па-добраму і з любоўю!!!
- Прыступі да сакраманту споведзі!!

**5 ЗАДАННЕ**

Прачытай наступныя словы і заўсёды памятай іх!!!




*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***

# Што паглядзець? Фільм “Явление”

**Калі ў дзяцінстве падчас катэхезы манахіня распавядала нам пра Фацімскія аб'яўленні, я заўсёды ўяўляла прыгожую карцінку: маленькія вясковыя пастушкі, да якіх прыйшла Багародзіца.**

"Якія ж яны шчаслівыя! Сустрэліся з самой Маці Хрыста", – думалася мне тады.

На мой розум ніколі не прыходзіла: а як адрэагавалі на расповед дзяцей іх бацькі? А што на гэта сказалі святары? Ці не маглі прыняць найбліжэйшыя людзі факт аб'яўлення Маці Божай за хлусню ці дзіцячую фантазію?

Пра адказы на гэтыя пытанні можна паразважаць, гледзячы фільм “Фаціма (Явление)” 2020 года.

Стужка заснаваная на рэальных гістарычных падзеях і ўспамінах сястры Люцыі – адной са сведкаў Фацімскіх аб'яўленняў.

У 1917 годзе Партугалія была ўцягнутая ў Першую сусветную вайну. Людзі пераносілі шмат цярпенняў, гора і смерці. У гэты няпросты час да траіх дзяцей – Люцыі, Францішка і Жасінты – на поле, дзе яны пасвілі авечак, прыходзіць жанчына ў белай вопратцы. “Я прыйшла з Нябёсаў” – сказала прыгожая Пані.

Яна папрасіла прыходзіць дзяцей на гэтае месца штомесяц, маліцца на ружанцы і перапрашаць за грахі свету.

Дзеці паверылі прыгожай Пані. Яны самі здагадаліся, што з імі размаўляла Багародзіца. З радасцю хацелі распавесці гэтую навіну сваім бацькам і святару. Але тут сустрэліся з перашкодамі сумневаў і недаверу. Адны казалі, што гэта дзіцячая фантазія, другія, што дзеці хлусяць, каб прыцягнуць да сябе ўвагу.

Ніхто не хацеў верыць: ні мясцовыя ўлады, ні прадстаўнікі Касцёла. Дзяцей прымушалі адмовіцца ад гісторыі пра тое, што да іх прыходзіць Багародзіца. Але дзеці паверылі Маці Божай. Яны не пераставалі маліцца на ружанцы і прыходзіць на сустрэчу. Чутка пра аб'яўленні хутка разышлася па ваколіцах. І на месца сустрэчы Люцыі, Францішка і Жасінты з Маці Божай пачалі прыязджаць шматлікія пілігрымы.

13 кастрычніка 1917 года каля 70 тысяч прысутных людзей убачылі пацвярджэнне дзіцячых слоў: з'яву на небе, якую потым назвалі “Танец Сонца”.

Захапляльны сцэнарый Марка Пантэкорва дапаўняецца выдатнай ігрой акцёраў, сярод якіх Стэфані Хіл, Алехандра Ховард, Хорхе Ламелас і іншыя.

Фільм з'яўляецца добрай нагодай узгадаць гісторыю Фацімскіх аб'яўленняў, а таксама паразважаць, што быць выбраным – гэта не толькі радасць і гонар, але і вялікая адказнасць і цяжкасці.

Асабіста мне стужка нагадала, як важна “быць як дзеці”. “Калі не навернецеся і не будзеце, як дзеці, не ўвойдзеце ў Валадарства Нябеснае” (Мц 18, 3). Ад дзяцей з фільма “Фаціма” кожны хрысціянін можа ўзяць прыклад моцнай безумоўнай веры, смеласці, мужнасці і даверу Той, Якая прыйшла да простых пастушкоў.

*Вікторыя Філіпенка*



# Аплаткавая сустрэча для бедных адбылася ў Гродне

**21 снежня, напярэдадні святаў Божага Нараджэння, у Гродне адбылася традыцыйная апаткавая сустрэча для бедных, бяздомных і маламаёмных людзей. На спатканне сабралася больш за сто чалавек, якія штодзённа сутыкаюцца з рознымі праблемамі.**

Штогод у гэты перадсвяточны час Касцёл хоча паказаць такім людзям, што яны не пакінутыя, што заўсёды могуць атрымаць патрэбную падтрымку, бо, як падкрэслівае Святы Айцец Францішак, “любоў да бедных знаходзіцца ў цэнтры Евангелля”.

Абед для ўдзельнікаў сустрэчы, як і кожны год, прыгатавалі законніцы Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта (назарэтанкі) разам з валанцёрамі пры падтрымцы Рэлігійнай місіі “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Гродзенскай дыяцэзіі”.

На святочную сустрэчу з беднымі прыбылі біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, дырэктар гродзенскага “Карытас” кс. канонік Раман Рачко, прэс-сакратар Гродзенскай дыяцэзіі кс. канонік Юрый Марціновіч. Прысутнічаў таксама пастар лютэранскай супольнасці ў Гродне Уладзімір Татарнікаў.

Усіх прывітаў кс. Раман Рачко, які растлумачыў традыцыю дзялення аплаткай і яе сімволіку. Святар падкрэсліў, што святы Божага Нараджэння заахвочваюць людзей быць добрымі адно да аднаго і старацца дзяліцца любоўю.

Пастар Уладзімір Татарнікаў выказаў сабраным віншаванні, адзначыўшы, што святы заўсёды яднаюць людзей у адну сям'ю і нясуць неабходную надзею.

Трымаючы ў руках аплаткі, духавенства дзялілася імі з удзельнікамі сустрэчы, жадаючы тым найперш міру і патрэбных дароў Пана Бога.

На абед удзельнікам былі прапанаваныя фасолевы суп, бульба, а на дэсерт – пончыкі і кампот з сухафруктаў. Таксама яны атрымалі сімвалічныя прадуктовыя падарункі.

Біскуп Аляксандр Кашкевіч удзяліў усім прысутным пастырскае бласлаўленне, пажадаўшы надзеі на лепшае заўтра.

*Прэс-служба Гродзенскай дыяцэзіі*

***Вольга Сяліцкая**, фота*

# Каляндар на люты

**2** лютага – свята Ахвяравання Пана

**6** лютага – успамін святога св. Паўла Мікі і паплечнікаў, мучанікаў

**8** лютага – успамін святой Жазэфіны Бакіты, панны

**10** лютага – успамін святой Схаластыкі, панны

**11** лютага – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з Люрда, Сусветны дзень хворых

**14** лютага – свята святых Кірыла, мніха і Мятода, біскупа, апекуноў Еўропы

**17** лютага – успамін святых сямі Заснавальнікаў закона Слугаў Найсвяцейшай Панны Марыі (сэрвітаў)

**21** лютага – успамін святога Пятра Дам'яна, біскупа і доктара Касцёла

**22** лютага – Папяльцовая серада, пачатак Вялікага посту

**23** лютага – успамін святога Палікарпа, біскупа і мучаніка

## Ахвяруй на “Каталіцкі Веснік”

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце “Каталіцкі Веснік” фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі

*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў

(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)

2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.

3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам А1 ці іншага мабільнага апаратара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на “Каталіцкі Веснік”, Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – В; 2 – Б; 3 – В; 4 – Б; 5 – А; 6 – В; 7 – Б; 8 – Б; 9 – А; 10 – Б



Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне “Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Выдавец:**
рэлігійная місія “Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Карытас” Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь”

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты “Каталіцкі Веснік”, перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП “Віцебская абласная друкарня”, г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 398

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2500 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк

Падпісана ў друк 23.01.2023 г. у 8.00

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь